PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 13 (1924) ГОД XXXVIII БЕЛАСТОК 28 САКАВІКА 1993 г. ЦАНА 2500 зл.

## 75 ГОД

Семдзесят пяць гадоў таму назад, 25 сакавіка 1918 г. апавешчана незалежную Беларускую Народную Рэспубліку. І хоць тадышні гістарычны момант не паспрыяў рэалізацыі гэтага векапомнага акта, аднак жа ідэя Беларускай Дзяржавы ніколі не згасала. Не сціхала і барацьба за яе, набываючы розныя формы ў пераломныя перыяды і эпохі. Сам час, у якім кружыць увесь свет, набліжае дзень сапраўды Вольнай Беларусі. Яе ўжо відаць, Яна ўжо ўзыходзіць на належны Ёй пасад між народамі!

Няхай жа дзень 25 Сакавіка будзе ў нашых сэрцах і душах тым днём, у які прысвецім Беларусі свае думкі і жаданні.

Жыве Беларусь!

**ГАНАРОВЫ КАМІТЭТ СВЯТКАВАННЯЎ 75 УГОДКАЎ АБВЯШЧЭННЯ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ БЕЛАРУСІ**
Беласток, у сакавіку 1993 г.

**СКЛАД ГАНАРОВАГА КАМІТЭТА святкаванняў 75 угодкаў абвяшчэння незалежнасці Беларусі:**

Яго Праасвяшчэнства Архіепіскап Беластоцкі і Гданьскі **Сава, Казімеж Дэркоўскі** — дырэктар Ваяводскага асяродка анімацыі культуры ў Беластоку, **Марко Заброцкі** — старшыня Звязу беларускай моладзі, **Ежы Капаня** — пасол на Сейм ПР, **Алег Латышонак** — старшыня Беларускага дэмакратычнага аб'яднання, **Васіль Ляшчынскі** — радны горада Бельск-Падляшскі, **Канстанцін Майсеня** — старшыня Грамадскага камітэта пабудовы Беларускага музея ў Гайнаўцы, **Аляксандр Малахоўскі** — пасол на Сейм ПР, **Яўген Мірановіч** — галоўны рэдактар беларускага тыднёвіка „Ніва", **Вальдэмар Пальчынскі** — пасол на Сейм ПР, **Юрка Сульжык** — прэзідэнт Беларускага аб'яднання студэнтаў, **Ян Тапалянскі** — старшыня саюза гмінаў Усходняй Беласточчыны „Нарва", **Юры Туронак** — гісторык, **Лявон Тарасэвіч** — мастак з Валілаў, **Юрка Хмялеўскі** — старшыня Асацыяцыі беларускіх журналістаў, **Ян Чыквін** — старшыня Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа", **Яўген Чыквін** — пасол на Сейм ПР, **Пятро Юшчук** — старшыня Рады беларускіх арганізацыяў, **Сакрат Яновіч** — пісьменнік.



*Вітаем дарагога госця* **Фота У. Завадскага**

## ВУЧЫЦЦА ТАЛЕРАНТНАСЦІ

У днях 5 і 6 сакавіка г.г. у Аполі адбылася папулярна-навуковая сесія, прысвечаная праблемам стэрэатыпаў і этнічных прадузятасцяў. Арганізатарам сесіі была Кафедра псіхалогіі тамашняй Вышэйшай педагагічнай школы, а ўдзел у ёй прынялі спецыялісты ў галіне грамадскіх навук (педагогі, псіхолагі, сацыёлагі), настаўнікі-практыкі і прадстаўнікі нацыянальных меншасцяў Польшчы.

Стэрэатыпы і этнічныя прадузятасці сярод дзяцей даследавала група навукоўцаў з апольскай ВСП пад кірункам праф. Веслава Лукашэўскага і д-р Барбары Вайгль (муж і жонка). Праводзілі яны рознага тыпу апытанні ў шэрагу школ Аполя і ваяводства. Дазволіла гэта сцвердзіць, што дзеці наогул аднoccяцца да іншых мала прыхільна. У некаторых школах рэалізавалася спецыяльная мадыфікацыйная праграма, пасля якой вобраз іншых у вачах дзяцей, як правіла, рэзка мяняўся. Замест ананімнай, незнаёмай масы пачыналі яны бачыць паасобных людзей, як са станоўчымі, так і адмоўнымі рысамі.

Гэтыя доследы і іх вынікі былі падставай і галоўнай воссю двухдзённай дыскусіі.

Як на практыцы ажыццяўляецца шматкультурная адукацыйная праграма, паказала дырэктар Пачатковай школы „Так" Таварыства альтэрнатыўнага навучання (грамадскай) Бэата Малішкевіч. Гэтая апольская школа праводзіць цікавы эксперымент — на працягу цэлага навучальнага года, у рамках розных прадметаў, рэалізуецца адна тэма: „Сустрэнемся з іншымі — няхай іншыя не будуць чужымі". Праграма абдымае веды пра гісторыю, культуру, літаратуру, традыцыі і звычаі, а таксама рассяленне нацыянальных груп у Польшчы. Дзецям тлумачыцца таксама — адпаведна для іх перцэпцыйных магчымасцяў — механізмы ўзнікання стэрэатыпаў і нацыянальнай прадузятасці.

Апрача навучання талерантнасці і пашаны для іншых, такая праграма дае станоўчыя эфекты ў чыста педагагічным працэсе. Дапамагае злучаць у адну лагічную цэласць веды, якія вучань набывае ў рамках розных прадметаў. „Зашуфлядкаванасць" інфармацый і брак між імі сувязяў, гэта і ёсць галоўны грэх традыцыйнай школы.

Да сесіі ў апольскай ВСП вучні школы „Так" пазнаёміліся з яўрэямі і цыганамі. Кожны пазнавальны этап канчаюць яны вечарынай, прысвечанай культуры гэтае нацыянальнасці, якую якраз вывучалі. 5 сакавіка адбыўся цыганскі вечар. Мастацкую частку дзяцей дапаўняў цікавымі расказамі старшыня Таварыства ромаў у Польшчы этнограф Анджэй Мірга.

Асноўныя пытанні, якія ставіліся ў дыскусіі падчас сесіі, гэта:

— ці трэба мяняць падыход польскага грамадства да нацыянальных меншасцяў і, увогуле, да іншых;

— наколькі навукоўцы маюць маральнае права прымяняць свае даследчыцкія метады на дзецях.

Усе ўдзельнікі сустрэчы пагадзіліся з тым, што ў польскім грамадстве часта замест аб'ектыўнай, навуковай інфармацыі функцыянуюць стэрэатыпы. А гэта, у сваю чаргу, спараджае прадузятасці, варожасць.

„Шматкультурнае грамадства, талерантнасць, пашана іншых, гэта вартасці несумненныя, — сказаў у падсумаванні праф. Януш Рэйкоўскі з Польскай акадэміі навук. — Альтэрнатывай можа быць толькі замкнёнае грамадства, ксенафабічныя паставы, урэшце, міжнацыянальныя войны, як гэта бачым на прыкладзе Югаславіі. Таму мы не можам замучваць сябе пытаннем, ці маем маральнае права фармаваць іншы светапогляд дзіцяці ад таго, які набывае яно ў сваім найбліжэйшым асяроддзі. Пытанне гэтае трэба паставіць інакш — ці маем мы права гэтага не рабіць, хаця ў нас ёсць такія магчымасці. Дарослых мяняць вельмі цяжка, а ўласціва працуючы з дзецьмі ёсць шанц на ўзгадаванне разумных, талерантных людзей, на фармаванне сапраўды адкрытага грамадства".

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**

## ЦЭНЗУРА І МЫ

Пасля некалькіх месяцаў працы ў "Ніве" магу я смела сказаць, што ў нашым асяроддзі ёсць шмат людзей гатовых ахвотна служыць добрымі парадамі. На працягу двух першых месяцаў не было здаецца і дня, каб хтосьці не раіў мне, каго з маіх супрацоўнікаў маю пазбыцца (вядома, для дабра "Нівы"), якіх матэрыялаў не пускаць у друк, або якія абавязкова змяшчаць у пабольшанай колькасці. Разумею тых, якія адмоўна ацэньваюць рэдакцыйны калектыў за разлезласць, ляноту - усе ж мы толькі людзі і беларусы на дадатак - але не магу пагадзіцца з так станоўчым адкідваннем вынікаў працы маіх супрацоўнікаў. Цяпер трошку менш наглядаецца такое, але даволі часта хтосьці мяне пераконвае, што матэрыялы, якія змяшчаем, шкодныя для "беларускай справы", дзеляць асяроддзе. "Лепей было б некаторых тэмаў не чапаць, - гаварыў адзін беларускі дзеяч, - паказвайце, як цяпер цяжка людзям жывецца, якія прыгожыя нашыя песні, пішыце, што дзеці вучыцца хочуць, але не маюць адпаведных умоваў. Бярыце прыклад з "Трыбуны" або з газеты Урбана, тады вас людзі чытаць будуць". Два разы пытаўся я гэтага добразычлівага чалавека: "А што з гэтага людзі мець будуць?", але адказу не атрымаў.

Няма аўтара ў "Ніве", якому хтосьці не дамагаўся б закрыць рот, якога матэрыялаў хтосьці не хацеў бы бачыць на старонках нашага тыднёвіка. Не заўсёды бывае важнае, што такі ці іншы чалавек піша ў даны момант. Беларусы, аказваецца, маюць вельмі добрую памяць. Памятаюць нават тое, што хтосьці пра іх крытычна сказаў ці напісаў пару гадоў таму назад. З аднаго боку можна віншаваць такой памятлівасці, але з другога, аднак, заўважаецца ў людзей недахоп таго, што называецца самакрытыцызмам, пачуццём гумару і чалавечай схільнасцю ігнараваць ўсё малаважнае.Наш няшчасны інтэлігент, нават калі ўжо стаіць за кафедрай або бегае з мікрафонам у руках, не перастаў думаць і рэагаваць як мужык. Кожная крытыка ў нашым асяроддзі успрымаецца як атака на асобу, установу, арганізацыю. Калі нейкі чалавек, якому здаецца, што ён усё разумее найлепш, што думае беспамылкова і вядзе сябе так, як павінен, будзе кімсьці ацэнены інакш, чым сам сябе бачыць - перажывае шок, а той, хто так ацэньваў астанецца ворагам, з якім барацьба вядзецца ўсялякімі даступнымі сродкамі. Прывыклі мы да таго, што нармальным лічым такі стан, калі нас хваляць, а мы безупынна дзякуем, дзякуем...

Жыццё нармальнага чалавека складаецца са станоўчых і адмоўных дзеянняў. Той жа самы чалавек сёння можа зрабіць штосьці такое, што заўтра сам ацэніць як нешта дрэннае. У нашым грамадстве з сялянскай псіхікай найчасцей аднак шукаецца апраўдання для сябе. Віноўнікамі ўсялякіх няшчасцяў заўсёды бываюць "іншыя".

☞ *Працяг на стар. 4*

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Powiedzmy sobie otwarcie, że marszałek Piłsudski też był potężnym oryginałem. (...) Piłsudski, gdy był w złym humorze, gdy go coś zawiodło, mówił: „Wy Polaczkowie”, jak się bardzo zdenerwował — „Wy Priwiślańcy”. A jak raz popadł w zupełną prostrację, to siadł i tak sobie powiedział półgłosem: „Ja chyba nie jestem Polakiem”.*

*(Kresy, nr 13, z wywiadu z Tadeuszem Konwickim)*

* * *

*Jeżeli potwierdzi się dotychczasowa opinia prawna Rady Programowej „Gazety Współczesnej”, to nie będę mógł wykonać uchwały zjazdu delegatów „Solidarności” zobowiazującej Zarząd Regionu do narzucenia kontroli programowej — powiedział wczoraj w czasie audycji Radia Białystok „Zadzwoń do nas” przewodniczący białostockiej „S” Wojciech Łowiec.*

*(Gazeta Współczesna, nr 47)*

Аказваецца, што не толькі „Ніва” мае сваю Праграмную раду. Але на гэтым голым факце паралелі, мусіць, канчаюцца. У нас Праграмную раду арганізавалі і сябры рэдакцыі, каб выйсці з падлегласці адзіна слушнай палітычнай лініі, а рэдакцыі „Газеты Вспулчэснай” тую Раду арганізавала адзіна слушная палітычная лінія, каб уставіць мазгі журналістам. Ці фактычна паміж дзвюма Радамі захаваецца якасная розніца — пакажа будучыня. Розныя дзівосы ў жыцці бываюць, а таму — мы прысягацца не будзем, што ніўская Рада утварэнне суперідэальнае.

* * *

*Я з Беласточчыны. За сваё, некароткае ўжо, жыццё пабываў і ў начальніках. Не выхваляюся, але — стаў дырэктарам фірмы беларускі патрыёт, і не мінуў месяц, як усе загаварылі па-беларуску. Нават і тыя, хто ўжо даўно перабег у палякі. Асімілюе і дэнацыяналізуе не плойма шавіністаў, а... нацыянальны хлеб.*

*У вас жа пакуль што лепей аплачваецца статус расейца. Таму і адраджэнне такое папяровае, фармальнае. Яно будзе прасоўвацца па-чарапашы марудна, гадоў 30—40, пакуль не вымруць пакаленні „тожа-беларусаў” (беларускі варыянт рускіх).*

*(ЛіМ, н-р 9, ліст ад Сакрата Яновіча)*

Спадару Сакраце! Зайдзіце калі ў рэдакцыю і скажыце нам па сакрэце, дзе тая ваша фірма была. Мы вас просім. Вельмі.

А пры нагодзе: здаецца, ідзе адліга. Сакрат Яновіч — гэтае пасланнё беларускага лёсу на Беласточчыне, урэшце заняўся высвятленнем сітуацыі беларусам у Рэспубліцы. Ну й дзякуй Богу. Нам тут вальней стане.

* * *

*Маскоўская камуністычная „Праўда” надрукавала правакацыйны ліст з подпісамі студэнтаў і выкладчыкаў Віцебскага педінстытута, дзе яны прызнаюцца ў нелюбові да свае Айчыны — Беларусі і прыніжана просяцца ўпадданства да суседняй дзяржавы — Расіі.*

*(Наша слова, н-р 7)*

Енк халопаў, якіх раптам хочуць пазбавіць прыгону. *Ну что же мы будем делать без барина?* Спадару Сакраце, просім улічыць і гэты варыянт „тожа-беларусаў”. Ці 30—40 гадоў — гэта не занадта аптымістычная арыфметыка?

* * *

*Panuje powszechne przekonanie, że ZChN odniósł sukces wyborczy (trzecie miejsce w ostatnich wyborach, 8,3 proc. głosów) dzięki wsparciu Kościoła Katolickiego. Oczywiście, ale też jest to właśnie partia ludzi, którzy słuchają księży, nieważne czy działa autorytet, czy strach lub też jedno i drugie. Nieporozumieniem jest czynić z tego zarzut.*

*(Polityka, nr 9)*

Слушна. Вельмі слушна. Але ці ж разумеюць гэтае маладыя нашыя палітыкі з БДА?

* * *

*Zdaniem premier Suchockiej Opolszczyzna ma o wiele większą szansę szybkiego rozwoju niż inne regiony Polski.*

*Sprzyja jej to, że jest „ziemią etnicznego i kulturowego pogranicza, zamieszkiwaną przez Polaków — repatriantów ze wschodu, Ślązaków czujących się od dawna Polakami, Ślązaków bez szczególnych sentymentów narodowych oraz Ślązaków poczuwających się do narodowości niemieckiej, a do tego jeszcze Ukraińców i Morawian.*

*(Gazeta Wyborcza, nr 62)*

Skąd my to, psia krew, ведаем? Ano stąd. Былі сабе ў адным месцы беларусы, якія спявалі народныя песні і пахвальныя дыфірамбы ўладзе. І былі яны самі ў тым месцы, этнічна-культурна-памежныя. А потым паявіліся сярод іх тыя, што пачалі спяваць rock, а пра спевы для ўлады забыліся. І паявіліся побач з імі іншыя карэнныя жыхары памежжа з нацыянальнымі тоеснасцямі: украінскай, русінскай, тутэйшай, праваслаўна-паляцкай... У чарзе, мусіць: яцвяжская і палавецкая... А месца гэтае ж не мае шан-

## З МІНУЛАГА ТЫДНЯ

**Нававыбраны міністр юстыцыі Ян Пянткоўскі** ў прысутнасці прэзідэнта РП **Леха Валэнсы** і прем'ер-міністра **Ганны Сухоцкай** злажыў у Бельвэдэры прысягу на вернасць Канстытуцыі.

**Адклікаць з пасады міністра аховы асяроддзя Зыгмунта Гартмановіча** запатрабавала Рада Саюза полскіх леснікоў. Леснікі лічаць, што міністр Гартмановіч падпарадкаваў Міністэрства аховы асяроддзя "інтарэсам груп націску" і дзейнічае са шкодай для "аховы асяроддзя". Калі ўрад не выканае гэтых патрабаванняў, Рада гатова пачаць страйк.

**Міністр унутраных спраў Анджэй Мільчаноўскі** прабываў з візітам на Украіне па запрашэнні ўкраінскага міністра ўнутраных спраў **Андрэя Васільшына.**

**"У польска-рускіх адносінах** адбыўся пералом, які трэба скарыстаць для падтрымкі ўзаемных гаспадарчых сувязяў" - сказаў у Балтыйску міністр замежных спраў Расіі **Андрэй Козыр'еў.** Ён высока ацаніў эканамічныя сувязі Калінінградскай вобласці з суседнімі польскімі ваяводствамі.

**Прэзідэнт Расіі Барыс Ельцын** падпісаў дэкрэт аб фармальным вяртанні казацкіх ваенных часцей у паўночна-каўказскім раёне Расіі. Дэкрэт удакладняе прынцыпы службы ў казацкіх атрадах, якія ўваходзяць у састаў узброеных сілаў Расіі. Міністэрствы абароны і ўнутраных спраў акрэсляць лік казацкіх атрадаў, запрапануюць традыцыйныя назвы, а ўрад падрыхтуе спецыяльныя прынцыпы выкарыстоўвання зямлі, якая належыць казацкай грамадскасці і апрацуе праект казацкага самаўрада.

**Другое пасяджэнне Рады балтыйскіх дзяржаў** адбываецца ў Хельсінкі. На гэтым форуме разглядаліся, між іншым, справа спынення некантраляванай хвалі бежанства праз Балтыку, праблемы нацыянальных і моўных меншасцяў у прыбалтыйскіх рэспубліках, а таксама бяспечнасць атамных электрастанцый у былым СССР.

**На мільён рублёў** ацэньваюцца страты ў выніку пажару ў **Тэатры оперы і балета ў Менску.** Пажар успыхнуў у нядзелю, 14 сакавіка г.г. перад спектаклем, калі ў зале знаходзілася ўжо каля тысячы гледачоў. У выніку спраўнай акцыі пажарнікаў, якая эвакуіравала ўсіх гледачоў, ахвяр у людзях не было. Прычынай пажару было кароткае замыканне ў электрасетцы, а віноўнікамі аказаліся неахайныя гідраўлікі, якія нестаранна выканалі рамонт і вада стала выцякаць на электрычныя правады.

**Фірма "Пронар" з Нарвы** наладзіла супрацоўніцтва з Менскім трактарным заводам. У гэтым годзе з мантажнага цэха ў Нарве выедзе тысяча беларускіх трактароў.

**На пасяджэнні Самаўрадавага сейміка ў Беластоку** дэлегаты прынялі пастанову аб стварэнні васьмі паветаў: у Сямяцічах, Гайнаўцы, Бельску-Падляшскім, Лапах, Беластоку, Моньках, Саколцы і Дуброве-Беластоцкай.

Кіраўніцтва чыгункі ў Седльцах паведаміла чыгуначнікаў у Чаромсе, што **з 1 чэрвеня 1993 г. рух цягнікоў на шляху Леўкі - Белавежа будзе спынены** з-за дрэннага тэхнічнага стану пуці. Затрывожаныя прафсаюзныя дзеячы з Чаромхі хутка арганізавалі сустрэчу ўсіх зацікаўленых справай бакоў з мэтай высветліць матывы рашэння прынятага ў Седльцах і адмяніць яго. Сустрэча, на якую не прыехалі прадстаўнікі варшаўскага цэнтра ПКП, закончылася безвынікова, а яе ўдзельнікі выехалі пераканаными, што віну за гэты стан рэчаў нясуць чыгуначныя начальнікі ў Седльцах.

**Гарадская рада ў Гайнаўцы** ухваліла бюджэт горада на 1993 г. велічынёю ў 26 млрд. 800 млн. злотых. З гэтага нэндзнага бюджэту Гайнаўскі дом культуры атрымаў 1 млрд. 550 млн. зл. датацыі, а Гарадская бібліятэка — 900 млн. зл.

**У Беластоку расце 44 500 дрэў.** Найстаршымі з'яўляюцца грабы пры вул. Звежынецкай і ліпы пры вул. Святога Роха. Большасць, бо 30 тысяч дрэў, знаходзіцца ў парках.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ”

→ Як Беласток святкаваў Дзень Незалежнасці Беларусі.

→ Марко Заброцкі даказвае, што ён не вярблюд.

→ Не перасаджвайце старых дрэў — заклікае Аўрора.

→ Немцы маюць грошы, а беларусы — інтэлігенцыю.

# ТЭЛЕФАКСАМ З МЕНСКА

### І ЗНОЎ У БОЙ?

Пасля паўтарагадовага вымушанага зацішша члены адноўленай камуністычнай партыі Беларусі (КПБ) ўступілі ў першы бой у ідэалагічнай і інфармацыйнай вайне, якую аднойчы яны ўжо прайгралі. Першая прэс-канферэнцыя прысвячалася вынікам работы V Пленума ЦК і Кантрольнай камісіі камуністаў Беларусі. Па словах кіраўніка КПБ Анатоля Малафеева, камуністычны рух крытычна ставіцца да тых эканамічных і сацыяльных пераўтварэнняў, якія праводзяцца беларускім кіраўніцтвам, але ж і сваёй праграмы вываду краіны з крызісу на вялікім рахунку не мае. Аказваецца, і на нечарговым XXXII з'ездзе КПБ "апантаныя апекуны" беларускага народа эканамічную праграму абмяркоўваць не будуць. Больш за дабрабыт і лёс беларусаў партыю хвалююць пытанні аб вяртанні асабістай уласнасці, аб'яднанні з партыяй камуністаў Беларусі і аднаўленні дзейнасці камуністычных перыядычных выданняў.

### БНФ - УЛІК І КАНТРОЛЬ

З'езд Беларускага народнага фронту, на якім будуць унесены змены ў праграму і статут дэмакратычнага руху, а таксама разгледжана канцэпцыя эканамічнай рэформы на Беларусі, вырашана правесці 15-16 мая.

Пакуль жа рэгіянальныя рады БНФ ствараюць грамадзянскія камісіі па кантролю за фактамі карупцыі і злоўжыванняў з боку прадстаўнікоў кіруючай наменклатуры. Пасля дэпутаты апазіцыі з дапамогай кантрольна-фінансавых органаў зоймуцца разглядам злоўжыванняў.

### СВЯТА НА МІЛІЦЭЙСКАЙ ВУЛІЦЫ

Святы таксама маюць нацыянальнасць. Не адно дзесяцігоддзе беларускія ахоўнікі парадку святкавалі Дзень міліцыі на чужы капыл - 10 лістапада. 4 сакавіка гэтага года беларуская міліцыя ўпершыню адзначыла прафесійнае свята па сваім календары. Менавіта ў гэты дзень у 1917 годзе была створана ў Менску Народная міліцыя.

### БЕРАЖЫЦЕСЯ ЖАНЧЫН!

Восемдзесят гадоў назад дзень 8 сакавіка стаў днём барацьбы жанчын за свае правы. Сёлета марш пратэсту прыхільнікаў Партыі камуністаў Беларусі і Руху за сацыяльны прагрэс і справядлівасць быў прымеркаваны да гэтай жа даты. Замест пустых каструль, як у Маскве, беларускія барацьбіткі прынеслі ад помніка танкістам-вызваліцелям Менска да помніка Леніну чырвоныя сцягі і лозунгі накшталт "Слава савецкім жанчынам!". Замест віншаванняў і кампліментаў з вуснаў паплечнікаў па калоне, якія належаць да моцнай паловы чалавецтва, чуліся палкія словы пра класавую барацьбу, прыгнятальнікаў і прыгнечаных.

### ЦІ ТО ВОЛЯ, ЦІ ТО НЯВОЛЯ?

Сюрпрыз ад Міністэрства ўнутраных спраў прынесла першае веснавое свята зняволеным беларускім жанчынам. Цяпер, адседзеўшы дзве трэці атрыманага тэрміну ў Гомельскай жаночай турме, яе жыхаркі ў выпадку прыкладных паводзін адпраўляюцца на вольнае пасяленне не ў далёкае расейскае Кемерава, а ў радыеактыўназабруджанае беларускае Шубіна, што ў Веткаўскім раёне. Пакуль "вольных" жанчын толькі 30. Да канца года кантынгент былога пансіяната аграпрамысловай тэхнікі ўзрасце да 150 чалавек.

### СТРАЧАНА, СТРАЧАНА, СТРАЧАНА...

Адбылася прэзентацыя кнігі "Вяртанне", пад якой вокладкай сабраны унікальныя дакументы - сведкі раскрадання і расцягвання каштоўнасцей беларускай культуры па ўсім свеце. Унікальны зборнік выдадзены камісіяй "Вяртанне" пры Беларускім фондзе культуры.

**МІКОЛА ДЗЯБЁЛА**

# ЛІТАРАТУРНЫ СЕМІНАР

Праўленне Беларускага літаратурнага аб'яднання "Белавежа" паведамляе, што **28 сакавіка 1993 г.** (нядзеля) ў Беластоку, вул. Лінярскага 4, а гадз. 11.00 адбудзецца чарговы літаратурны семінар, прысвечаны новаму выданню "Бібліятэчкі "Белавежы", зборніку маладых "белавежцаў" **"Мае песні табе дару"**. Сардэчна запрашаем!

(лук)

# РЭДАКТАР ВАЛКАВЫЦКІ СВЯТКАВАЎ У ЖУРНАЛІСЦКАЙ ХЕЎРЫ

Георгію Валкавыцкаму, стваральніку і першаму рэдактару "Нівы", стукнула семдзесят. Упаткаўшы яго на вуліцы, выпадковы прахожы ніколі яму гэткай метрыкі не выставіў бы. Загадка чалавечай прыроды, калі адбітак пражытых гадоў і падзеяў хутчэй за ўсё застаецца недзе ўнутры, чымсьці праяўляецца ў вонкавым выглядзе. Ну, але наша рэдакцыя юбілею 70-годдзя Георгія Валкавыцкага аспрэчваць не стала. Балазе і жонка юбіляра, спадарыня Вера, прызнала, што так яно сапраўды і ёсць, *майму Юрку ўжо семдзесят.*

12 сакавіка ў рэдакцыі "Нівы" з юбілеем спадара Валкавыцкага віншавалі цяперашні рэдактар "Нівы" доктар Яўген Міраловіч і старшыня літаб'яднання "Белавежа" прафесар Ян Чыквін. Доктар Міраловіч прызнаўся, што адно цяпер, пасля паўгадовага рэдактарства, дакладна зразумеў увесь той прасцяг карпатлівае і ўпорыстае працы, якую Г. Валкавыцкі ўклаў у стварэнне і ўтрыманне беларускай газеты ў Польшчы. А таксама яшчэ, што цяпер кніжка-ўспамін Г. Валкавыцкага "Віры", якую прачытаў на адным дыханні за адзін прысяд, паказалася яму ў яшчэ іншым, так бы мовіць, яснейшым асвятленні. Прафесар Чыквін падкрэсліў велізарную ролю Г. Валкавыцкага і "Нівы" як цэнтра прыцягнення і выспявання новай культурнай з'явы ў жыцці беларускай меншыні ў Польшчы - літаратурнага руху менавіта. Юбіляра віншавалі таксама прадстаўнікі беластоцкага ваяводы, якія паднеслі спадару рэдактару, як прыстала на гэты крайне хрысціянскі час, кніжку рэлігійнай паэзіі.

Гамонка пры застоллі, акрашаная анекдотамі Сакрата Яновіча, усё вярталася ў тыя гістарычныя для маладога ніўскага пакалення часы, калі акрамя беларускай мовы і геаграфіі Беласточчыны трэба было ведаць, і то дакладнютка, разгалінаванні партыйнае структуры і псіхалогію партыйных функцыянераў і чыноўнікаў розных узроўняў, бо і ад іхняе міласці ці няміласці залежалі і лёс галоўнага рэдактара, і воблік "Нівы". Слухалі мы, маладыя, з разяўленымі ротамі, і дзіву даваліся, як пры тым усім можна было ў "Ніве" рабіць і нешта беларускае. Паміж пакаленнямі спадара Валкавыцкага і, скажам, спадара Мірановіча, учынілася біялагічная і псіхалагічная прорва, і ці не ад гэтага таксама ў нашым асяроддзі пайшлі непаладкі. Людзі розных гістарычных эпохаў, папросту, паміж сабою не разумеюцца. Г. Валкавыцкі гэты факт канстатуе спакойна-іранічнай рэфлексіяй (глядзі ягонае інтэрв'ю у "Ніве" н-р 11): *цябе ўсе слухаюць уважна, а робяць дакладна наадварот.*

Спадарыня Вера Валкавыцкаая падрыхтавала багаты стол - (як і выпадае ў гэты час) з поснымі стравамі, *Вы больш ешце, а менш выпівайце*, павучала яна маладых. Ну й мы наеліся. Дзякуем, спадарыня Вера. Пра вашу рыбу мы ў рэдакцыі гаварылі яшчэ тыдзень, і ўсё тужылі.

**ЯН МАКСІМЮК**



## КАГО ВОЙТ...

Tekst p.t. "Kogo wójt bielskiej gminy uważa za wroga" ("Niwa" nr 9 z 28.02.1993) autorstwa pana Wauraniuka jest doskonałą ilustracją nierzetelności dziennikarskiej. Już sam tytuł oparty jest na nieprawdziwej relacji z rozmowy telefonicznej jaką przeprowadziłem z przewodniczącym koła BTSK w Bielsku panem Bazylim Leszczyńskim w dn. 12 lutego. Faktem jest, że w trakcie wspomnianej rozmowy odmówiłem dotowania konkursu "Piosenka Białoruska" motywując to tym, iż nie będę finansował BTSK (organizator konkursu). BTSK na łamach swojego tygodnika "Niwa" dopuszcza do pozamerytorycznej krytyki (także mojej osoby), przypominającej stylem najgorsze paszkwile polityczne. Jako przykład podałem jedną z wypowiedzi E. Mironowicza, w której porównał mnie do lokatorki chlewni.

Ze skruchą przyznaję, że nie należę do osób, które odrzucają chlebem, gdy w nie rzuca się kamieniem.

W sprawie uczestnictwa zespołu z Dubiażyna w konkursie dodam dwie uwagi. Po pierwsze, pan Wauraniuk bazuje na wypowiedziach M. Romaniuka, aktywisty BTSK nie będącego członkiem zespołu, jednocześnie uznaje za niestosowne poprosić o relację któregokolwiek z kilkunastu członków zespołu. Po drugie, imputuje, jakobym zastosował wobec zespołu szantaż ekonomiczny. Zespołowi z Dubiażyna przyznano dotację, tak jak przyznano ją zespołom z Rajska (ubiegłoroczny uczestnik konkursu) oraz z Knoryd, o którym od momentu reaktywacji wiadomo było, że chce wystąpić na konkursie.

Reasumując, nie uważam za swojego wroga ani pana Leszczyńskiego, ani tym bardziej pań z Dubiażyna czy Knoryd. Mam natomiast prośbę do pana Wauraniuka. Czy byłby pan w stanie odpowiedzieć, dlaczego nie mogę zaliczyć do przyjaciół zarówno "Niwy" jak i organizacji czuwających nad jej linią programową?

Warto jednak zwrócić uwagę na coś, co jest znacznie istotniejsze niż to czy Ignatiuk jest łajdakiem czy nie. Otóż sposób w jaki wojownicy sprawy białoruskiej atakują swoich domniemanych przeciwników politycznych utrudnia lub wręcz uniemożliwia porozumienie się tych, którym zdrowego rozsądku nie brakuje.

**magister JERZY IGNATIUK**
Wójt Gminy Bielsk Podlaski

Od redakcji: Panie Wójcie, Pańska rzetelność i odpowiedzialność za słowa godna jest największego podziwu.

**E. MIRONOWICZ**
**M. WAURANIUK**

<u>Гаспадар каментуе</u>

## ПРАГНОЗ НА 1993 ГОД

Хаця ўжо прайшоў першы квартал, думаю, што чытачам будзе цікава пазнаёміцца з маім прагнозам на цэлы год.

Студзень, як усе ведаюць, быў у пачатку цёплы, у сярэдзіне — вялікі вецер, шторм на моры, трагедыя „Гевеліюша" (вечная памяць загінуўшым маракам і пасажырам), пад канец — крыху снегу і марозу. Сяляне былі больш задаволены, бо гэта прадвяшчае лепшы ўраджай.

Аднак у студзені павысіліся цэны на спажывецкія і прамысловыя тавары. Абяцаюць, што такое яшчэ не раз у гэтым годзе здарыцца. Калі ўжо Сейм давёў да канца закон аб абортах, тады наступнае паўтара года будзе займацца аптэчкамі ў аўтамашынах.

У другім квартале ўрад і Сейм будуць займацца паляпшэннем свайго жыцця, павышэннем дыет (камандзіровачных) для паслоў, ну і павышэннем цэнаў, каб зменшыць бюджэтны дэфіцыт.

Трэці квартал будзе часам канікулярным. Міністры паедуць у замежныя курорты, каб там, на захадзе, паглядзець, дзе пабудаваць сабе дом і ўцячы туды, калі выкінуць іх з пасады і адгэтуль паклёпнічаць на нашу бедную дзяржаву. У той час будзе вельмі цёпла і рабочыя не вытрымаюць у фабрыках і выйдуць на шпацыр на вуліцу...

У чацвёртым квартале напачатак павысяцца цэны і паменшацца рэальныя даходы паасобных грамадскіх груп.

Я думаю, што мой прагноз можа споўніцца, чаго нікому не жадаю, але ведаю, што ўрад будзе рабіць усё, каб так сталася.

**М. ЛУК'ЯНЮК**

## АСТАПЕ, НЕ НАЗНАЧАЙ МЯНЕ Ў ВОРАГІ!

Ад некаторага часу ў друку і ў радыё ўгаворваюць мне, што я — вораг украінцаў! Разумею хітрасць такога спрашчэння, бо тады з аргументамі ворага можна не лічыцца. Вораг — гэта вораг. Канец, кропка!

Адкуль узялося тое?

Справа ў тым, што я сапраўды вораг, але маральнага шантажу, **украінізацыйнай акцыі**, якую спрабоўвае разгарнуць на гістарычнай Бельшчыне наваяўлены Саюз украінцаў Падляшша. Гэта арганізацыя базуе ў асноўным на падабенстве тутэйшых заходнепалескіх дыялектаў да ўкраінскай нацыянальнай мовы. Але, вось, ці згодны з тым ідэолагі новаарганізаванай **палескай** нацыі?

Бяда маіх антаганістаў у тым, што я не пярэчу ў існаванні спомненых падабенстваў. Гавару толькі, што кожная нацыянальная свядомасць вынікае з усведамлення грамадска супольнага гістарычнага лёсу, такога, які моцна іншы ад лёсу суседзяў па тэрыторыі. Гэта відаць у фармаванні межаў дзяржаваў.

Калі б вырашала мова, а не гістарычны менавіта лёс, то, для прыкладу кажучы, польскіх **гураляў** трэба было б прызнаваць славакамі, бо гавораць яны амаль ідэнтычным з іх дыялектам на другі бок граніцы ў Татрах. Давялося б вярнуць Францыі палову французскамоўнай Бельгіі, хоць тыя бельгійцы не лічаць сябе французамі (давайце ўгаворым ім!). Трэба было б, таксама, ліквідаваць швейцарскую нацыю, якая мала што не мае асобнай мовы, то гаворыць яшчэ некалькімі, на нямецкай, французскай, італьянскай... Мус быў бы перакрэсліць і англамоўных шатландцаў. Не буду ўжо разводзіцца ў эвентуальным планаванні далучэння да іспанцаў і партугальцаў насельніцтва Лацінскай Амерыкі! Клопат быў бы з Англіяй: ці прызнаць іх амерыканцамі, ці наадварот (гергечуць жа адной моваю!).

Я, зрэшты, лішне бяру сабе ў галаву ўвесь гэты Саюз украінцаў Падляшша. Вёскі, як вядома, пусцеюць і зарастаюць крапівою, а ў мястэчках і гарадах беларусаў з арлянска-бельскімі ўкраінцамі, якія прысмоктваюцца да іх, накрые сваім вялізным рэшатам татальная паланізацыя (яднае польскі лёс).

I będzie po krzyku, Panowie Ukraińcy Podlasia!

Hey!

**САКРАТ ЯНОВІЧ**

P.S. Не пісаў бы я гэтых праўдаў, якія сёння нават дурню ясныя, калі б не звярнуўся да мяне Астап Лапскі, публікуючы пры канцы лютага на старонках украінскага тыднёвіка „Наше Слово", што выходзіць у Варшаве, жальны ў мой адрас маналог п.з. „Пане Сократе".

Ї так, Спадару Астапе! Я даўно знаёмы з Вамі і нязменна шаную Вас. Але Вы мяне цяпер крыху расчаравалі. *Я гаварыў жа і гавару, што: калі хто — напрыклад — у Бельску захоча свабодна і непрымушана стацца ўкраінцам, дык мае ён дзеля гэтага абсалютна святое права!!!*

Шчасця вам і ўдачы, браты ўкраінцы!

Ї на прамілы Бог — адчапіцеся Вы ад мяне са сваім варагаваннем! Пашукайце сабе ворагаў, калі ўжо мусіце, у іншых! Згода?

**С.Я.**

# ЛЁС ЗЯМЛЯЧКІ

У ольштынскую царкву хаджу штотыдзень ужо чатыры гады, адкуль стаў жыць у Ольштыне. Люблю сустрэць беларусаў і пагутарыць з імі: цяпер больш праваслаўных стала прыходзіць у храм. Прадаюцца ў царкве не толькі свечы, крыжыкі але таксама календары, кнігі ды газеты „Часопіс", „Лампада", „Тыгоднік Падляскі". Шкада толькі, што сярод іх няма „Нівы". Людзі напэўна купілі б яе, „зваротаў" газет няма. Рэдакцыя павінна звярнуцца да Яго Праасвяшчэнства Савы, каб атрымаць дазвол на продаж „Нівы" ў цэрквах.

Купляючы „Часопіс" загаварыў я па-беларуску да жанчыны, якая прадавала. Яна ўзрадавалася, пагутарыла са мною і запрасіла да сябе, калі даведалася, што я з'яўляюся карэспандэнтам „Нівы". Калі я зайшоў у яе дом, мяне прывіталі пані Альжбета з мужам. Падчас размовы пані Альжбета расказала пра свой лёс.

— Нарадзілася я ў 1930 годзе ў Беластоку. Калі пачалася вайна, сям'я пераехала ў Крынкі, да бабулі. Калі ў 1944 годзе прыйшлі саветы, загадалі ехаць у Расію. У кастрычніку 1944 г. завезлі ў лагер у Асташкове. У агароджаным дротам лагеры былі палонныя немцы, аўстрыйцы, палякі, беларусы і ўкраінцы. Разам з нашай сям'ёй былі яшчэ іншыя сем'і з Крынак: Ганацкія, Юрчэні і Фюдз. Мы там цяжка працавалі пры сушцы торфу і ў гарбарні шкур, з якіх выраблялі абутак для салдатаў. Калі вечарам вярталіся галодныя, чулі стрэлы і крык людзей; гэта дабівалі палонных салдатаў. У 1947 годзе ўдалося нам пакінуць лагер і пераехаць у горад Маршэнск у Тамбоўскай вобласці. Былі там да канца лістапада, а пасля вярнуліся ў Крынкі. Было тут усё збуранае і спаленае вайной, але ўжо ішло мірнае жыццё. Моладзь збіралася вечарамі і спявала беларускія песні пад акампанемент гармоніка, на якім гралі Слаўка Пратасевіч, Люда Анісімовіч і Віцька Антыфончык. На першы дзень Вялікадня хадзілі ў Паўночны Востраў і там з вялікай радасці званілі цэлы дзень на царкоўнай званіцы; цяпер гэтага звычаю пэўна ўжо няма. Гэта быў цудоўны перыяд. У 1955 годзе выехала я з Беласточчыны, так як і многія маладыя людзі, шукаць працы. Прыехала ў Гіжыцка, дзе працавала краўчыхай і адначасова вучылася ў Тэхнікуме тэхналогіі адзежы. Пазнала там прыгожага юнака Юзэфа Грыба з Чанстаховы. Вясной 1956 года пажаніліся мы, а восенню пераехалі ў Ольштын. Муж, інжынер-будаўнік, пабудаваў дом у пасёлку Дайткі. Прыехала да мяне мая мама з Крынак. Хадзілі мы разам у царкву; мой муж, каталік, таксама маліўся разам з намі. Мама памерла ў 1985 годзе, пахавалі мы яе ў Крынках. Дзяцей не маем, абое ўжо на пенсіі. Абы толькі было здароўе, — сказала на заканчэнне пані Эльжбета.

**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**

**АД РЭДАКЦЫІ:**

Паважаны Спадар Андрэй,

мы нават думалі пайсці да Уладыкі і прасіць дазвол прадаваць „Ніву" ў цэрквах. Магчыма, што Уладыка, як чалавек, які шануе ўсіх сваіх вернікаў і згадзіўся б на гэта. Але ж самі бачыце, што мы пішам найбольш пра ўсе справы, якія кранаюць нашае зямное жыццё. Шмат тут усялякіх непрыстойнасцяў. Ну, падумайце, ці гэта добра было б, каб „Ніва" з Вашым артыкулам пра дзяўчатак з Усходу ляжала ў царкве.

Вы, як верны наш карэспандэнт і чытач „Нівы", ведаеце найлепш, што вялікія з нас грэшнікі. У нашых артыкулах ёсць аж надта слоў, якія размінаюцца з духам Евангелля. Царкву бачым як нешта ідэальнае, чыстае, месца, дзе ідзем, каб стаць лепшымі. Вельмі шануем Царкву і не хацелі б, каб яе аўтарытэт цярпеў з прычыны нашых палітычных ці ідэалагічных падзелаў, або нейкіх лаянак, якіх прычын ніхто ўжо і не ведае.

# НАШЫХ Б'ЮТ

Напісаць гэты артыкул падштурхнулі мяне выказванні Мікалая Панфілюка наконт канфлікту ў былой Югаславіі ("Ніва", н-р 10 ад 7.III.1993 г.) і амерыканскай палітыкі.

Напісанае М. Панфілюком дасканала адлюстроўвае разгубленасць беларусаў Беласточчыны ў вызначэнні сутнасці сваёй нацыянальнасці, за чым ідзе немагчымасць вызначэння свайго месца ў свеце. Нацыянальнасць у нас атаясамліваецца з веравызнаннем і таму каталікі лічаць сябе палякамі, а праваслаўныя (пакуль што) беларусамі. Тыя ж самыя праваслаўныя беларусы неправаслаўных беларусамі не прызнаюць, затое "сваімі" лічаць усіх іншых праваслаўных, у тым ліку і сербаў. Тым часам рэлігія не мусіць, і найчасцей не супадае, ні з нацыянальнасцю, ні з дзяржаўнасцю. Падзяляючы сябе і іншых на "нашых" і "нянашых" паводле веравызнання пападаем у свет абсурду, у якім Купала - паляк, а амерыканцы - ворагі сербаў.

Глянем, як у сапраўднасці выглядаюць справы былой Югаславіі. Першае: дзякуй Богу, не "нашых б'ют", толькі нашы б'юць. "Нянашыя", пакуль-што, ледзь адбіваюцца. Другое: ЗША, Вялікабрытанія і Францыя зусім не збіраюцца біць сербаў, тым больш за іхную праваслаўнасць. Як ЗША, так і Вялікабрытанія - гэта пратэстанцкія краіны, у якіх, пагатоў у палітыцы, каталікі з'яўляюцца толькі фальклорнай прымессю. Прэзідэнт ЗША з'яўляецца пры тым, наколькі мне вядома, адзінавернікам не спадароў Тудзьмана і Ізетбегавіча, а толькі якраз спадара Панфілюка. Хіба ж сп. Панфілюк, становіцца гэтым самым амерыканцам або перастае быць беларусам?

Нацыянальнасць (і дзяржаўнасць) нясходны з веравызнаннем. Таму паводле каталіцкіх французаў развал Югаславіі абазначае, што Францыя прайграла I сусветную вайну. Гэта ж на карысць толькі немцам. Затое праваслаўная Сербія збіраецца дзяліць праваслаўную Македонію з мусульманскай Албаніяй і праваслаўнай Грэцыяй. (У Грэцыі запіраюць чалавека ў турму за публічную заяву, што ён македонец). Македонцы адорылі ўвесь праваслаўны славянскі свет царкоўнаю мовай, і што з гэтага? Пойдуць пад нож, калі не заступіцца за іх мусульманская Турцыя.

Толькі глядзець, як узброеныя шаленцы ўсіх нацыянальнасцяў і веравызнанняў, якія сёння выпальваюць датла Боснію і Краіну, заўтра падпаляць Балканы, ад чаго пасляза̀ўтра можа загарэцца ўвесь свет.

Мілітарная інтэрвенцыя ў былой Югаславіі неабходная, каб прадухіліць гэты сцэнарый. Тым часам амерыканцы па-бацькоўску ківаюць пальцам на сербаў, якія проста перабіраюць меру, але пляжыць іх ніколі не будуць. Сербія была саюзнікам Амерыкі ў дзвюх сусветных войнах, таксама як Вялікабрытаніі, Францыі, ды last but not least, Расеі. У гэтых войнах харваты і мусульмане ваявалі на баку немцаў.

Можна спадзявацца, што калі нават амерыканцы ўздумаюцца бамбардзіраваць пазіцыі сербаў у Босніі, меткасць іхніх бамбардзіроўшчыкаў будзе менш-больш такая, як падчас скідання кантэйнераў з гуманітарнай дапамогай для мусульманаў. Скідаюць кантэйнеры для мусульманаў, а пападаюць яны нейкім чынам у рукі сербаў. Калі амерыканцы будуць скідаць бомбы на сербаў, несумненна будуць яны падаць на галовы мусульманаў.

Нарэшце, трэцяе: спосаб інфармацыі пра ўсё гэта ў Польшчы. Інфармацыя гэта, вядома, аднязначна антысербская. Хопіць успомніць хаця б апошнюю справу - абстралянне канвою з гуманітарнай дапамогай, які вярнуўся з Сараева. Карэспандэнтка кажа, што невядома, хто страляў і параніў двух шафёраў-палякаў, дык лектар тэлежурнала з каменным тварам чытае, што стралялі сербы.

Выглядае, палякі забыліся, што паводле Мілаша, шчыра любяць яны толькі дзве нацыі на свеце: венграў і сербаў. Але толькі так выглядае. Бо што сапраўды робіць Польшча? Тое самае, што Вялікі Брат з Амерыкі, значыць - амаль нічога. Паслала яна нейкія часці ў рамках мірных сілаў ААН у Краіну. І каго гэта і ад каго ахоўваюць там палякі-каталікі? Наймя праваслаўных сербаў ад рэваншу з боку каталіцкіх харватаў. Вось і ўся рэальная польская палітыка.

Дык чаму ж адно робіцца, а другое гаворыцца? Няўжо ж усе польскія газеты, радыё і тэлебачанне знаходзяцца ў руках германафілаў (прыхільнікаў Нямеччыны), ультрамантанаў (якім бліжэйшы Ватыкан за родны край) альбо наогул ідыётаў? Наўрад.

Po prostu robią nam wodę z mózgu, panie Panfiluk.

**АЛЕГ ЛАТЫШОНАК**




# ЦЭНЗУРА І МЫ

☛ Працяг са стар. 1

У "Ніве" часта друкуем шмат розных матэрыялаў, з якімі мае погляды далёка мінаюцца. Але ці гэта абазначае, што я маю рацыю? Не ведаю! Ведаю толькі, што ў такой ці іншай справе маю іншыя погляды. Абавязкам рэдакцыі лічу даць магчымасць прадставіць сваю рацыю нават тым, якіх меркаванні ў даны момант лічу нечым кур'ёзным.

Мы прывыклі, што ёсць адна праўда, адно бачанне свету. Прывыклі таксама да існавання аўтарытэтаў, якіх слова лічылі амаль як нешта святое. Гісторыя аднак не ведае людзей беспамылковых. Толькі дэмакратычны парадак і свабода крытыкі дае шанц выпрацаваць такі стан, які нікога да канца не будзе задавальняць, але і нікога не будзе дыскрымінаваць. Дэмакратыя вымагае безупыннай абароны сваіх рацыяў і безупыннай гатоўнасці да кампрамісаў, а гэта значыць - пашаны чужых інтарэсаў.

Шаную людзей, якія маюць свае погляды і самі стараюцца ацаняць рэчаіснасць. Свабоду слова лічу як дабрадзейства, якое стварае нам перспектывы дайсці да нармальнасці. Свабода выказвання дае толькі магчымасць развіцця асобы ў грамадстве і пошукаў свае тоеснасці. Пішучы сёння тое, што думаю, ведаю, што кожны, хто хоча, можа мяне ацаніць, закінуць мне ўсялякія недарэчнасці. Адначасова, калі паказваецца такая крытыка, магу быць свядомы сваіх памылак.

Усялякія дыктатуры выраслі тады, калі рацыю прадстаўляў толькі адзін цэнтр, і ён хутка ставаўся рашаючым пра ўсё аўтарытэтам.

Часта маю нагоду слухаць галасы абурэння наконт артыкулаў Мікалая Панфілюка. На жаль, рэдка хто прадстаўляе нашаму карэспандэнту свае аргументы. Найчасцей прыпамінаецца, што раней быў ён членам камуністычнай партыі і з такім самым энтузіязмам хваліў тадышнюю рэчаіснасць. Мне здаецца, што калі прафесары, дацэнты, магістры і палкоўнікі маглі памяняць свае погляды, то мог гэта зрабіць таксама і селянін. Думаю, што зусім інакш выглядала б нашае грамадства, калі б кожны чалавек укладаў у сябе столькі працы што Панфілюк. Паважаю таксама ўсіх, хто мае іншыя погляды чым наш карэспандэнт з Дубіч-Царкоўных, але трэба ўшанаваць права селяніна на ацэнку таго, што друкуем у "Ніве" ці таго, што пішуць нашыя пісьменнікі.

Цэнзура - чаго дамагаюцца нашыя "дэмакраты" - можа стварыць ілюзію ўпарадкаванага, элегантнага свету, якога аднак у сапраўднасці няма. Можна замоўчваць некаторыя справы, хваліць усіх "нашых" за тое, што яны "нашыя", але ці тады рэчаіснасць будзе лепшая? Дзесяткі гадоў гэтае практыкавалі, і што? А можа даць людзям шанц - пакуль яшчэ можна - сказаць тое, што хочуць сказаць?!

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**

САКРАТ ЯНОВІЧ

# ЗАЗІМАК НАД ІСЛАЧЧУ

## /9/

Муляў мне даўні маральны доўг: наведаць Янку Брыля. Колькі ні бываў я ў Менску, дык усё неяк па-метэорнаму... Забегчы жа да спадара Янкі — так сказаць — на адзін глыток гарбаты было б мала сур'ёзна. Трэба пабыць у яго цэлы вечар. Жывем жа ў розных дзяржавах і няма магчымасці пабачыцца, калі хочаш.

У Брыля не стамляешся сумятнёю размовы, смеццем справаў. Адпачнеш душою, вернецца да цябе смак вечнага. Ён любіць нябедны стол і важныя словы. Арыстакратызм духа.

Так было і ў той марозлівы адвячорак. Сядзелі мы ўчацвярых, з жонкамі. У бібліятэчным пакоі новай кватэры (старую, прасторнейшую, пакінуў сыну з унукамі). Недзе збоч ад праспекта Машэрава, хоць у такой жа беласценнай пустыні. Але тут будаўніцтва не так тандэтнае; кватарантамі ў ім эліта Рэспублікі.

Гаварылі пра вялікую паню Літаратуру. Таксама і пра ейных паднoскаў. Пачалі, здаецца, ад Гамера... Брыль не паважае тых пісьменнікаў, якія палітыкуюць. Яны ад гэтага — кажа — драбнеюць. І, чамусьці, абавязкова паршывеюць... Страчваюць чуццё галоўнага ў жыцці і ў свеце. Палітыка — гэта барацьба, беспардонне, часта жульніцтва! А творчасць — гэта святасць мудрасці і рыцарства сэрца.

Янка Брыль праводзіў мяне з Таняю да прыпынку гарадскога аўтобуса. Высозны з яго мужчына, што аж зоркі на небе засланяе! Трохі памерзлі ў чаканні, а яшчэ і ад звычнага ў такіх выпадках неспакою: праз дзве гадзіны ад'язджаў наш кур'ерскі цягнік Масква — Варшава. Багажы пакінулі ў маёй траюраднай сястры Рэны Семяняка. У двухмільённым Менску ўсюды далёка.

Учора быў Новы год. Сустракалі ў Ракаве, у Янушкевічаў герба Любіч. Упяцярых, бо акрамя Язэпа з жонкай быў яго большы брат Фэлік (потым зайшоў Славік Рагойша). Пад ціхі акампанемент песняў Данчыка правялі цудоўнае застолле! Жыхала цеплынёю старадаўняя печ. Насценная буазерыя — увешана беларусікамі. Мароз на шыбах размаляваў чароўныя гушчары. Фэлік праявіў свой геній анекдотніка. — Што такое саланіна? Саланіна — гэта падстава беларускага патрыятызму! Напрыклад, ляціць пасажырскі самалёт, а ў ім — беларус. Рускі лётчык знюхаў, што ён есць саланіну з хлебам; просіць кавалачак. Беларус кажа яму: не будзеце есці! Лётчык на гэта: ей-Богу буду! А беларус: не будзеце, бо я вам не дам!

Фэлік — вядомы мастак і арганізатар беларускага каталіцкага руху. З Язэпа менш палітык, працуе ў Акадэміі навук Беларусі. Абодва не пакідаюць роднага ім Ракава, убудоўваюцца тут уласнымі хатамі. Як і універсітэцкі выкладчык Славік. Хлопцы заімпанавалі мне патрыятызмам, як Лёнік Тарасэвіч Валілямі! Думаюць нават заснаваць мясцовы часопіс. На маё жартоўнае запытанне, ці беларускім будзе іх выданне, яны мала не абразіліся!

Трохі шкода жонак: сваёй Тані і Язэпавай Галіны. Мужы абцэсам лезуць у гісторыю, пакідаючы клопаты за домам на іх жа рукі! У лепшай сітуацыі — Славіка Таццяна: будучы знакамітай вучонай, не апрандуе мужавай памяркоўнасці, але, усё роўна, мусіць быць — і гаспадыняй, і маткай. Рагойшы разбудоўваюць бацькаў дом. Пагладзеўшы на іх старанні, засумаваў я па сваіх Крынках (уявіў сабе блізкую ўжо Каляду ў сядзібе Яновічаў — маці, елку, хлопцаў, пірагі і смачноты).

Вывозіў я з Менску ў Беласток кілаграмны пачак машынапісных копіяў твораў Яўгена Скварчэўскага, беларускія апавяданні і рускі раман „Сюрприз. Годы написания, скитаний и преследований (1968—1991)". Пра такога аўтара я ніколі не чуў. Маё знаёмства з ім адбылося цалкам нечакана, пасля сустрэчы з маладымі паэтамі з асяроддзя часопіса „Першацвет". Калі ён яшчэ сядзеў у крэсле — асобна — пад сцяною, як мне здалося, у цывільнай позе афіцэра запасу, падумалася нават пра непрыемнае з недалёкага мінулага...

Папрасіў аб канфідэнцыяльную размову. Падкасаў потым свой спартыўны світэр і дастаў заціснуты дзягаю на жываце гэты ж пачак. Калі расказаў пра свае перыпетыі, я надта здзівіўся! Яны вельмі нагадвалі менавіта мае, тыя дваццацігадовай даўнасці. Паліцэйскія шантажы, звальненні з работы, забарона друку.

Але цяпер 1993 год на дварэ! Што гэта робіцца?!

І як дапамагчы чалавеку? — няпростае пытанне.

*(Працяг будзе)*

# ВЕЛІКАПОСНЫЯ РОЗДУМЫ АЙЦА КАНСТАНЦІНА

### АЗДАРАЎЛЕННЕ І ВЕРА

Евангельскае чытанне чарговай, 4-й нядзелі Вялікага Посту зачэрпнута з 9-га раздзела Евангелля паводле Марка. У ім гаворыцца пра аздараўленне Хрыстом апантанага хлопца. Бацька няшчаснага юнака звяртаўся спярша з просьбай аб аздараўленні да апосталаў, аднак яны не здолелі гэтага зрабіць. "О, род няверны. Дакуль буду з вамі? Дакуль буду цярпець вас? Прывядзіце яго да мяне" - з дакорам сказаў Ісус. На словы зняверанага бацькі, які сказаў: "Калі можаш памажы нам" Ісус адказаў: "Усё магчымае для таго, хто верыць". На вачах народу, ён аздаравіў юнака, выгнаўшы з яго нячыстага духа. Пры гэтым ён даў зразумець вучням, што іхная вера павінна быць узмоцненая праз малітвы, пост і падпарадкаванне сваіх сэрцаў дзеянню божай сілы.

Узаемазалежнасць паміж верай і аздараўленнем з'яўляецца адным з лейтматываў Хрыстовага навучання. Шмат каму Ісус гаварыў: "Вера твая выратавала цябе". Сучасны чалавек скептычна ставіцца да такіх з'яваў. Ён больш разлічвае на медыцыну, на лекарствы і навейшыя дасягненні тэхнікі. Тым не менш, час бескрытычнага захаплення нібыта неабмежаванымі магчымасцямі сучаснай медыцыны здаецца незваротна мінае. Хаця вучоныя не любяць слова "цуд", яны таксама пачынаюць прызнаваць, што гэтак званых "парапсіхалагічных з'яваў" нельга ігнараваць.

У палове 60-х гадоў, Еўропу абляцела вестка, што ў Бразіліі і ў Афрыцы нейкія чарадзеі робяць аперацыі без прыладаў. Чуткі пацвердзіў на месцы д-р Андр'ю Пугарыш, выдатны знаўца парапсіхалогіі. Недзе ў 70-м годзе, чарга прыйшла на Філіпіны. Пачалі надыходзіць адтуль інфармацыі, што робяць там складаныя аперацыі голымі рукамі, без скальпеля і рэнтгена. У спецыялістычнай прэсе ў Еўропе і ў Амерыцы паявілася мноства артыкулаў на гэтую тэму. Філіпінскія лекары не ўтойвалі таго, што рабілі. "Мы лечым, - сказаў адзін з іх, Вергіллё, - траяка. У фізічным сэнсе - праз магнетызм, дотыкам рук. У эмацыянальнай, псіхічнай сферы - здзяйсняем цуд. У духоўным сэнсе - праз веру і лучнасць з Богам. Можам таксама перадаваць сваю волю і энергію на адлегласць".

"Нельга вылечыць чалавека, калі не пазнаецца і не аздараўляецца ягоная душа, - сказаў іншы філіпінец, Робі Гуціерэс. - Аздараўленне - вельмі складаны працэс і праходзіць ён рознымі шляхамі. Мы не робім цудаў; дапамагаем толькі тым, якія самі хочуць сабе дапамагчы. Усё, што бачым вакол сябе - гэта чыстая ілюзія; галоўнае адбываецца ў нашым розуме. Гэта матэрыялізацыя думкі. Бог стварыў свет дасканалым, - працягваў Гуціерэс, - аднак чалавек разбурае ягоны лад лічачы, што паглыбляе свае веды. Нашых аздараўленняў нельга вытлумачыць з дапамогай сучаснай навукі, яны адбываюцца ў сферы вышэйшай свядомасці, дзе адбываецца ўсё".

Прадстаўнік традыцыйнай медыцыны, філіпінскі лекар Жэмэ Лікаўко, так тлумачыў непрыхільнай прэсе моц філіпінскіх чарадзеяў: "Надыходзіць час, калі традыцыйная медыцына звернецца да духоўных лекараў і яны разам будуць весці хворага да здароўя. Без веры пацыента - не дзейнічаюць лякарствы. Гэта не яны лечаць хворага, толькі псіхіка чалавека, які верыць у аздараўленне, дае загад свайму целу".

Філіпінскія знахары падкрэсліваюць, што кіруюцца ў сваёй працы любоўю да чалавека і жаданнем дапамагчы яму. Яны спасылаюцца на навуку Буды, які сказаў, што чалавек жыве на тое, каб служыць не толькі сабе, але і іншым. Што тычыцца вынікаў працы - да іх дарабляў розныя навуковыя тэорыі, але самыя аздараўленні - гэта факт.

У экзатычныя, філіпінскія цуды можна верыць або не верыць, аднак хто апынуўся ў шпіталі, хто перажыў цяжкую хваробу, выйшаў з безнадзейнага становішча, той сам пераканаўся наколькі важны для здароўя цела - здаровы дух, аптымізм і вера ў аздараўленне ці выратаванне. Ведаючы пра гэтую залежнасць, падчас вялікага Посту пакліканага для духоўнага аздараўлення, Царква напамінае нас: "Калі будзеце мець веру як гарчычнае зерне, нічога не будзе немагчыма вам".

**а. КАНСТАНЦІН БАНДАРУК**



## ВЕЛІКАПОСНЫЯ НЯДЗЕЛІ

### IV НЯДЗЕЛЯ — 28.08 — ПРАПАДОБНАГА ІААНА ЛЕСВІЧНІКА

Быў ён набожным манахам, які амаль /памёр у 563 г./ усё сваё жыццё правёў на Сінаі. З'явіўся ён там у шаснаццацігадовым узросце і на працягу 19 гадоў знаходзіўся пад духовай апекай старца Мартырыя. Пасля яго смерці Іаан падаецца ў пустыню, дзе ў самоце праводзіць 40 год. Пасля вяртання з пустэльніцтва становіцца ён ігуменам сінайскага манастыра. Пасля некалькігадовага прабывання ў манастыры ізноў падаецца ў пустыню і там памірае на 80 годзе жыцця. Паказваючы вернікам у прыклад Іаана Лесвічніка Царква даказвае, што ворага духоўнага збаўлення чалавека перамагаецца постам і малітвай. Пацвярджае гэта Евангелле на гэтую нядзелю — Марк IX, 17-31 — аб аздараўленні беснаватага.

Прападобны Іаан вучыў, што духовае жыццё — гэта лесвіца, якая вядзе к Богу. Гэтае духовае ўдасканальванне прадставіў ён у сваёй кнізе "Лесвіца", дзе ў 30 ступенях/раздзелах/ паказвае барацьбу з распустай, пыхай, гневам, пустатой, прагнасцю, пражэрлівасцю і іншымі нашымі грахамі і слабасцямі. З'яўляецца яна адначасна правадніком у дасягненні такіх хрысціянскіх цнотаў як пакора, скромнасць, нявіннасць, велікадушнасць, цярплівасць, малітва.

*/Працяг будзе/*

**С.Н.**

## СВЯТЫ АЛЯКСЕЙ — ЧАЛАВЕК БОЖЫ

Прападобны Аляксей нарадзіўся каля 360 года ў Рыме ў сенатарскай сям'і. Па волі бацькоў ажаніўся ён са сваячкай цэзара, але ў дзень шлюбу патаемна пакінуў дом і падаўся ў Эдэсу (горад у Месапатаміі, зараз у Паўднёвай Турцыі). Прычынай гэтага было ягонае рашэнне адрачыся ад свету і ахвяравацца Богу. У Эдэсе правёў ён 17 гадоў, дзе жыў як жабрак ля ўваходу ў царкву. Увесь час маліўся і пасціў, харчуючыся толькі хлебам і вадой, а міласціну аддаваў бедным, асабліва старым і хворым. Шляхам малітваў і роздуму імкнуўся ён да пастаяннага ўдасканальвання сваёй душы. Яго цела страціла ўсе прызнакі жывога арганізма і стала падобным на мошчы. Святы Аляксей не хацеў людской славы і рашыў падацца ў Тарс (горад над Міжземным морам у Малой Азіі), але неспрыяльныя вятры занеслі яго карабель у родныя мясціны, непадалёк свайго горада. Зглядзеў ён у гэтым здарэнні боскую волю і вырашыў жыць непадалёк сваіх бацькоў. Праседзеў ён 20 гадоў каля брамкі роднага дома нікім нераспазнаны. Ягоны бацька, як добры хрысціянін, кожны дзень пасылаў яму ежу, не здагадваючыся, што гэты жабрак — яго сын. Ежу св. Аляксей раздаваў іншым, а сабе пакідаў толькі крошкі. Бацькоўскія слугі смяяліся і здзекаваліся над ім. Добраахвотны мучанік усё гэта пераносіў пакорна. У сваім доме бачыў ён часта сваю жонку, якая жыла ў цясцёў. Вобраз сям'і толькі пабольшваў яго мукі, але любоў да Бога пераадольвала любоў да бліжніх. Пасля выяўлення Госпадам даты смерці, св. Аляксей спісаў сваё жыццё і пакінуў ліст жонцы і бацькам. Неўзабаве пасля смерці ягонае цела стала выдзяляць благавоннае міра і пры гэтым пайшлі многія цудоўныя выздараўленні. Быў ён пахаваны каля 411 года, а яго нятленныя мошчы былі адкрыты ў 1216 годзе.



За клопаты ад добраахвотнага адрачэння ад гэтага свету і ахвярванне Богу, за поўнае пакоры, цярплівасці, спакойнасці і любві жыццё, Царква прысвоіла яму, як адзінаму святому, званне Божы Чалавек. Яго памяць ушаноўваюць 30 сакавіка (17 па ст. ст.).

**С. Н.**

# ГОРАД КЛЯШЧЭЛІ

### XI. ПАМІЖ ВОЙНАМІ

Восенню 1915 года Кляшчэлі занялі немцы. Горад прадстаўляў сабою сумны выгляд - апаленыя дамы, разбіты храм св. Мікалая... Жменька праваслаўных беларусаў, якія не падаліся ў "бежанства", не змаглі, на жаль, правесці яго аднаўленне. Тут даў знаць аб сабе таксама пэўны антаганізм, засеяны яшчэ пры разборцы касцёла ў 1866 г. І так, справу знішчэння Мікалаеўскай царквы дапоўнілі людзі. Ацалела адно званіца з 1709 г.

Вяртанні з "бежанства" расцягнуліся на некалькі гадоў. Людзі не паспелі яшчэ належна абжыцца пасля вяртання, як 25 верасня 1924 г. у горадзе ўспыхвае пажар. Праглынае ён і старажытную царкву св. Юрыя і Ануфрыя.

Адначасова з эканамічнымі праблемамі нявырашанымі былі і палітычныя пытанні. Нацыянальныя беларускія сілы не маглі прымірыцца з падзелам Беларусі і чынілі ўсялякія афіцыйныя і падпольныя дзеянні дзеля яе вызвалення. На Беласточчыне беларускія патрыятычныя сілы гуртаваліся, галоўным чынам, у Сакольскім і Бельскім паветах. У апошнім, найбольш актыўным быў раён Кляшчэль. Адсюль жа, з Грабаўца (вёска даўняй кляшчэлеўскай дзяржавы) паходзіў атаман "Скамарох" (Герман Шыманюк), які ў 1921-1922 гг. узначальваў атрад партызанаў (чыт. "Часопіс" 7-8/1992).

Узброеныя дзеянні атрада "Скамароха" выпалі галоўным чынам на красавік 1922 г. Адной з раней запланаваных акцыяў быў, між іншым, напад на паліцэйскі пастарунак у Кляшчэлях.

Многа дзён перад нападам паліцыі быў перададзены ўльтыматум наступнага зместу: "Паны бандыты паліцы ў Кляшчэлях. Згодна з прыказам атамана Скамароха, я, начальнік атрада тэрарыстаў Іван Чорт папярэджваю, калі вы не перастанеце біць і здзекавацца над нашымі братамі Беларусамі ў час арыштаў, за вашыя праступкі будзеце павешаны на тэлефанічным стаўбе".

Уначы з 28 на 29 красавіка 1922 г. атрад уварваўся ў пастарунак. У сутычцы загінула двух паліцэйскіх. Партызаны забралі зброю і дакументацыю. У гэту ноч тая ж самая група ўчыніла ў Кляшчэлях яшчэ два, зусім бяссэнсоўныя напады: абакрала рэстаран, забіваючы ўласніка Ануфрыя Савіцкага ды яго маці. Такія "подзвігі" не толькі не маглі даць нічога станоўчага беларускай справе, а пацягнулі за сабою ўрадавыя рэпрэсіі і кроў пакараных смерцю.

Аднак жа, падпольныя, узброеныя беларускія дзеянні працягваліся з рознай сілаю ажно да 1925 г., калі ў раёне Белавежскай пушчы актывізаваў сваю дзейнасць атрад Ігната Рошчанкі з Кляшчэль.

Царкоўнае жыццё ў Кляшчэлях ў неспакойныя 20-ыя гады пачынае паступова нармалізавацца са снежня 1920 г., калі ў тутэйшую Успенскую царкву назначаецца а. Яўфімій Максімчук. Паводле рашэння адміністрацыйных улад да кляшчэлеўскага прыхода далучаюцца былыя прыходы ў Касной і Вульцы-Выганоўскай. У так узбуйненым прыходзе, са звыш 3000 прыхаджан было вельмі цяжка аднаму святару скаардынаваць усю царкоўную дзейнасць. Гэта, несумненна, уплывала на настроі прыхаджан, што выкарыстоўвалі непрыхільныя Праваслаўю сілы. Пачынае выяўляцца добры грунт для неауніі, што ў канцы 20-ых гадоў дало свой плён у Касной.

Як паказваюць афіцыйныя адміністрацыйныя дакументы, насельніцтва даўняга каснянскага прыхода звярнулася ў 1928 г. у рымска-каталіцкую курыю ў Вільню з просьбай прыслаць у тутэйшую царкву уніяцкага святара ("Sytuacyjne sprawozdanie UW w B-stoku" з 28 сакавіка 1928 г.). Курыя задаволіла "жадаючых" і прыслала уніяцкага духоўнага Васіля Гапановіча, а пасля а. Грыгорыя Драздова.

10 ліпеня 1928 г. праваслаўныя духоўныя ўлады адклікуюць з Кляшчэль а. Платона Панько, а на яго месца назначаюць а. Андрэя Кучука. Новы святар пачынае актыўную супрацьуніяцкую дзейнасць. У гэтым успамагаюць яго шматлікія кляшчэлеўскія вернікі, між іншым, прадстаўнікі тутэйшай эліты.

Прыкладам таму можа паслужыць сход жыхароў вёскі Жукі, каснянскага прыхода, што адбыўся 28.10.1928 г. На сходзе а. Андрэй Кучук разам з Мікалаем Канаховічам з Кляшчэль, былым мужам даверу Беларускага пасольскага клуба ды іншымі, прадстаўлялі насельніцтву сутнасць уніі і заклікалі быць вернымі Праваслаўю.

Служэнне і дзейнасць а. Андрэя Кучука не былі ў Кляшчэлях доўгімі. Па дакладна невядомых прычынах 12.10.1931 г. звальняецца ён ад абавязкаў настаяцеля, а на яго месца назначаецца а. Уладзімір Кудраўцаў. Гэтае рашэнне выклікала канфлікт у прыхадскім жыцці. Як вынікае з "Сітуацыйнай справаздачы" Ваяводскай управы ў Беластоку за лістапад 1931 г. вінаўнікамі такога прыкрага становішча былі пакрысе абодва святары.

Кляшчэлеўскі царкоўны канфлікт адмоўна паўплываў на настроі каснянскіх прыхаджан у адносінах да Праваслаўнай царквы. Нягледзячы на старанні а. Уладзіміра Кудраўцава, які ў Кляшчэлях служыў да 1938 г., уніяцкі святар у Касной утрымліваўся да 1941 г., калі пачалася нямецкая акупацыя нашых земель.

*(Працяг будзе)*

**Р.С. і М.С.**

# ПІШАМ ПРА ШКОЛУ

Вучні Гайнаўскага беларускага ліцэя пачалі выдаваць свой часопіс. Мае ён адлюстроўваць жыццё школы і трапляць да ўсяе школьнае грамадскасці ( у тым ліку і да настаўнікаў). Да гэтай пары паказаліся два нумары часопіса: першы зусім без загалоўка, а другі - з крыху даўгаватым "Polsko-białoruski nieregularnik ilustrowany". У іх можна знайсці планы дзейнасці вучнёўскага самакіравання і ўражанні першакласнікаў ад новай школы, апісанні школьных экскурсій і рэцэнзіі на фільмы паказаныя ў рамках ДКФ, цікавейшыя (не заўсёды паводле меркаванняў настаўнікаў) класныя працы і цытаты арыгінальных прафесарскіх выслоўяў, а таксама літаратурную творчасць ліцэістаў.

Матэрыялы ў часопісе адзначаюцца лаканічнасцю - вельмі добра - і своеасаблівым гумарам. Мне, асабіста, спадабалася апісанне будовы новага школьнага будынка, якое канчалася цікавым абвяржэннем: "Гэта няпраўда, што ў кране "Вальдэк" пасяліліся пчолы". Моцна падзейнічала на маё ўяўленне апісанне Інстытута біялогіі ФВУ ў Беластоку, куды ездзілі аматары гэтага прадмета, асабліва тых паскручваных у нейкіх слоіках вужоў, якія з'ядаюць хамякоў і мышэй, балотных чарапах, што ганяюцца ў басейне за беднымі рыбкамі, розных тараканаў, піраній ды іншай такога тыпу поскудзі.

Бываюць і іншыя тэксты - папахвае ад іх афіцыйнасцю і празмерным дыдактызмам. Добра хаця, што іх аўтары маюць гэтага свядомасць і рашаюцца на такую форму дыялога з калегамі, "не бачачы іншага выхаду". У будучыні, аднак, варта яго пашукаць - гэта толькі ўзбагаціць змест выдання.

Як выяўляецца, сапраўдным скарбам для рэдактараў школьнага часопіса з'яўляюцца настаўнікі. Хопіць толькі ўважна сачыць за іхнімі словамі, там ёсць усё, што прыцягне патэнцыяльнага чытача: гумар, трапная падборка слоў, прэцызійнасць выражэння. "Я рабіла гэта ў дужках"; "калі пачынаю выключацца, гавару дурноты"; "калі хтосьці цяпер слухае прэсу..."; "сёння працягваем студзенскае паўстанне" - гэта толькі некаторыя залатыя думкі педагогаў, якія знайшлі сваё месца на старонках вучнёўскага часопіса.

Дырэктар таксама ўнёс сваю долю ў выпрацоўку тэмаў. Быў ён настолькі неасцярожны, што выказаўся публічна супраць аўтамата з прэзерватывамі на калідоры школы. Цяпер моладзь задумоўваецца, ці гэта кансерватызм поглядаў, ці проста страх перад жонкай.

Тэкст пра сустрэчу з дырэктарам у Дыскусійным клубе маладых "Думка" - адзіны беларускі ў двух нумарах часопіса (што, як на характар школы, з'яўляецца лічбай несамавітай, але бадай адлюстроўвае сітуацыю тамака). І гэта крыху засмучае падчас чытання наогул вясёлых і файных тэкстаў.

**КЛАЎС**

# ЗЯЛЁНЫЯ ЛЁГКІЯ ПОЛЬШЧЫ ЯШЧЭ РАЗ

Фундацыя Форда прызнала ўзнагароду актывістам праграмы „Зялёныя лёгкія Польшчы": Стэфану Казлоўскаму, Анджэю Касэнбергу, Здзіславу Шкіруцу і вядомаму беластачаніну Кшыштафу Вольфраму — кожнаму па 5 тысяч долараў. Спецыяльную ўзнагароду адну тысячу долараў атрымаў Польскі экалагічны клуб з Вроцлава за праект веласіпедных дарожак у цэнтры гэтага горада. Фундацыя Форда прызнае ўзнагароды ад 1982 года; палякі ўзнагароджаны ўпершыню. Прадстаўнік фундацыі „Euronature", якая арганізуе польскі выпуск конкурсу, падкрэсліў, што ўдастоены перш за ўсё ўзорны характар праграмы. Мэтай праграмы, якая абнімае пяць паўночна-ўсходніх ваяводстваў, з'яўляецца комплекснае грамадска-эканамічнае развіццё рэгіёна, згодна вымаганням аховы прыроды. Знаходзяцца тут прыгожыя і прыродна вартасныя абшары: Белавежская пушча, даліна Нарвы, даліна Бобры (Бебжы) і мазурскія азёры.

**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**

# ДЗВЕ ПАМЫЛКІ Ў АДНЫМ НУМАРЫ

І абедзве ў маіх тэкстах (маю на ўвазе „Ніву" ад 14 сакавіка). Першая з'явілася дзесьці падчас друкарскага працэсу — у якісьці спосаб слова „будучы" было заменена „*бягучым*", што даволі істотнае, бо пісаў я пра самаўрадавыя выбары („Беларусы і выбары"). Выбары гэтыя запланаваны, безумоўна, на весну будучага, а не гэтага года.

За другую памылку віна поўнасцю падае на мяне самога. У зацемцы „Арсеннева і Бэндэ пад адной вокладкай" напісаў я, што ў першым томе выдання „Беларускія пісьменнікі; біябібліяграфічны слоўнік" аднатаваны два аўтары-„белавежцы": Надзея Артымовіч і Алесь Барскі. Прапусціў я, такім чынам, трэцяга „белавежца", аднаго з пачынальнікаў беларускага літаратурнага жыцця ў пасляваеннай Польшчы — Яшу Бурша (**Янку Анісэровіча**, а не *Якава*, як напісана ў слоўніку), — які таксама знайшоў сваё месца, як у агульнабеларускай літаратуры, так і ва ўспомненым слоўніку.

**Спадара Анісэровіча і паважаных чытачоў горача перапрашаю.**

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**

# ВЯЛІКІ ДЗЯКУЙ

настаяцелю праваслаўнага прыхода св. Кузьмы і Дзямяна ў Рыбалах прат. а. Рыгору Сасне і інжынеру Барыславу Рудкоўскаму за ганаровую грамату з прыгожай графікай з выявай найцікавейшых месцаў нашых старонак. Вельмі ўдзячны я за гэтую грамату абодвум даследчыкам беластоцкай зямлі, якія турбуюцца, каб не загінула царкоўная архітэктура і Праваслаўе. Жадаю ім многа здароўя і нястомнасці ў працы над выяўленнем нашых каранёў.

**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**

# ВЯРТАЮЦЦА "СУСТРЭЧЫ"

Калі я летась забіраў ад пераплётчыка падшыўку "Сустрэчаў", думаў, што гэта ўжо завершаная гісторыя. Апошні, 13 нумар часопіса беларускіх студэнтаў у Польшчы выйшаў друкам у 1990 годзе і здавалася, няма такой сілы, якая б яго рэанімавала. У такім перакананні умацоўвала мяне хаця б тое, што сярод нашых студэнтаў не знайшлося і жменькі пісьменных людзей, ахвотных раз у месяц рэдагаваць ніўскую старонку "Прысутнасць".

А тут, восенню мінулага года - неспадзяванка! Пасля двухгадовага перапынку зноў з'явіліся "Сустрэчы". А ў пачатку гэтага года - другі нумар. Вось табе і на!

Новыя "Сустрэчы", нягледзячы на той самы, стары загаловак, трэба лічыць - па-мойму - адметным выданнем. Рэдагуюць яго новыя людзі, у зусім іншы спосаб. Можна сказаць - па-свойму. І гэта вельмі добра.

Хтосьці можа скрывіцца на памылкі, якіх у выданні сапраўды нямала. Але, калі іх у "Сустрэчах" не было? Мой сябра, з якім у свой час давялося мне пасядзець над "Сустрэчамі", заўважыў быў неяк, што і памылкі сёння іншыя. Бяруцца яны часткова са спробы вяртання да граматыкі Тарашкевіча, часткова з лішняга паспеху і браку досведу ў працы са слоўнікамі. Што зробіш - маладосць!

Але, калі паспрабаваць зрабіць нейкі аналіз новых "Сустрэчаў", дык розніца між першым і другім нумарамі будзе відавочная. І гэта не толькі таму, што ў іх выкарыстоўваюцца розныя алфавіты, але, перш за ўсё, таму, што другі нумар больш спелы, відаць з яго працу рэдактараў над матэрыялам і над сабою. У ім і мова чысцейшая, і артыкулы зграбней напісаны - карацейшыя, накіраваныя, галоўным чынам, на студэнцкія справы. Ёсць тут інфармацыя пра чарговыя атрасіны студэнтаў-першакурснікаў (калісьці сталая пазіцыя), пра мітынг каля беларускага пасольства ў Варшаве, пра сустрэчу з Сакратам Яновічам, пра апытальнік, каго студэнты лічаць беларускім палітыкам 1992 года. Юрка Сульжык - тады віцэ-прэзідэнт, а сёння ўжо галава БАСу - задумоўваецца над чарговым Фестывалем музыкі Маладой Беларусі. Ёсць і хроніка студэнцкага жыцця (магла б быць больш змястоўнай), што асабліва важна для будучых гісторыкаў. Завершанасці выданню прыдаюць вершы Алеся Айны і графіка Касі Собчак.

Калі ў сённяшніх рэдактараў "Сустрэчаў" хопіць настойлівасці, дык гэты часопіс мае шанц стаць трывалым элементам беларускага грамадска-культурнага жыцця ў Польшчы, як голас студэнцтва. Яшчэ, зразумела, зрабіўшы сёе-тое дзеля выпрацоўкі сваёй непаўторнай формы.

Паколькі знайшоў я ў "Сустрэчах" анкету, дык, на правах чытача, дазволю сабе адказаць тут на пытанне: як ты ставішся да беларускай лацінкі? Я асабіста - мала прыхільна. Але, мабыць, сённяшняя экстравагантнасць рэдактараў, гэта адзіны спосаб, каб беларускае друкаванае слова было даступнае моладзі і ў будучыні. Хто мне сёння пакажа школу, дзе не абмяжоўваецца навучанне кірылічнага алфавіту?

**М.В.**

### УВАГА, ДЭКЛАМАТАРЫ!

У нядзелю, 4 красавіка бягучага года (пачатак а гадзіне 11) адбудуцца цэнтральныя элімінацыі дэкламатарскага конкурсу „Роднае слова" для вучняў сярэдніх школ і дарослых — у памяшканні Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства па вул. Варшаўскай 11 у Беластоку. Запрашаем!

**(Я.Ц.)**

# СЛОЎНІК ПА ІНФАРМАТЫЦЫ

*Палітыка, што праводзілася ў апошнія два стагоддзі на Беларусі да крытычнага стану звузіла сферу ўжытку роднай мовы і амаль спыніла развіццё і фармаванне навуковай тэрміналогіі на дзяржаўнай беларускай мове, асабліва па сучасных накірунках навукі і тэхнікі. Адраджэнне беларускай нацыі магчыма толькі на грунце аднаўлення паўсядзённага ўжытку нацыянальнай мовы, арганізацыі адукацыі ў поўным асяроддзі беларускай мовы. У гэтых варунках распрацоўка слоўнікаў, тэрміналогіі па адпаведных галінах навукі набывае вельмі важнае значэнне.*

Гэтак піша ва ўступе да свайго „Руска-беларуска-англійскага слоўніка па інфарматыцы і вылічальнай тэхніцы"*/ Мікола Савіцкі. Гэты слоўнік, у якім аўтар сабраў каля тысячы тэрмінаў — першая спроба ўнармавання лексікі, якая мае дачыненне да інфарматыкі і вылічальнай тэхнікі. Першая спроба, а значыць ёсць прычына для дыскусіі над шляхамі фармавання гэтай лексікі.

Першая заўвага да слоўніка — гэта спосаб падачы матэрыялу. Аўтар падае яго ў трох калонках: расейскае загалоўнае слова, затым беларускае тлумачэнне, а наканец англійскі тэрмін. Такі парадак у слоўніку, не сакрэт, абмяжоўвае лік карыстальнікаў ім да ўсяго, так сказаць, расейскамоўных беларусаў, якім перш за ўсё вядомая расейская інфарматычная лексіка. Хацеў я адшукаць у слоўніку, як паводле М. Савіцкага трэба па-беларуску называць *floppy disk*. І што аказалася — мусіў я аднекуль даведацца як гэта па-расейску завецца. Іншая справа, што ў тлумачэнні М. Савіцкага *floppy disk* гучыць халерна добра - *гнуткі дыск*.

Вывад адгэтуль такі, што, калі б у слоўніку адвярнуць парадак падачы матэрыялу — англійскі тэрмін, беларускае тлумачэнне, расейскае тлумачэнне — слоўнік у ніякай меры не згубіў бы свае універсальнасці, Кожны, хто хоць у невялікай меры займаўся ў сваім жыцці камп'ютэрамі — абавязкова знаёмы з англійскай тэрміналогіяй. Гэта незалежнае ад геаграфічнай шырыні ці ад ідэалагічнай зоны. Зразумела тут, што ў варунках адраджэння дзяржавы і ейнай мовы трэба ўсё, уключна з вузкімі галінамі тэхнікі, пераводзіць з расейшчыны на беларускую мову. Аднак хочацца тут падкрэсліць, што ў выпадку інфарматыкі паўнацэнным дапаможнікам быў бы якраз англа-беларуска-рускі слоўнік. Інфарматычная тэрміналогія не ствараецца ні ў Расеі, ні ў Беларусі — яна даходзіць да нас з англамоўнай зоны, а мы толькі яе адаптуем на свой грунт. Адным словам — трэба перакладаць з англійскай.

Ёсць у слоўніку крыху непаслядоўнасцяў у самым словаўтварэнні:

*адапт-ар*
*класт-эр*
*кампілят-ар*
*рэгіст-р.*

Якімі катэгорыямі кіраваўся аўтар у такім утварэнніканчаткаў — цяжка здагадацца. Усё гэта аднак дэталі, якія не аспрэчваюць сэнсоўнасці выкананай Міколам Савіцкім працы — калі б прапанаваная аўтарам лексіка ўвайшла ва ўжытак, само жыццё яе ўнармавала б.

Варта наканец адзначыць, што аўтар у шмат якіх выпадках не абмяжоўваецца да аўтаматычнага пераймання англійскіх тэрмінаў ды ўтварэння моўных калек: *interface* — *інтэрфейс*, але побач *злучво*, *interactive mode* — *інтэракыўны рэжым*, але: *сумоўны лад*.

Што ж, слоўнік, якім бы ён ні быў, але ўжо ёсць — цікава толькі, што хутчэй загаворыць яго тэрмінамі: камп'ютэры ці беларусы?

**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**

---

**/ Мікола Савіцкі, Руска-беларуска-англійскі слоўнік па інфарматыцы і вылічальнай тэхніцы, Менск 1992, МП „Гаспад".*

 

## ПАСЕКЛІ НАШ КРАЙ ПАПАЛАМ

28 кастрычніка 1937 г. ваенная калегія Вярхоўнага Суда Савецкага Саюза на выязной сесіі ў Менску прысудзіла 8 беларускіх паэтаў да вышэйшай меры пакарання. Дзень пасля былі расстрэлены стваральнікі авангарднай і сацрэалістычнай паэзіі М. Чарот, М. Зарэцкі, П. Галавач, А. Вольны, В. Кавалёў, В. Сташэўскі, М. Маракоў і А. Дудар.

На падставе твораў Алеся Дудара, якія прывялі да асуджэння і смерці паэта, можна зарыентавацца, у якіх умовах нараджалася савецкая літаратура і якія яе вартасці ацаняліся ўладамі як найбольш „злачынныя" для „дзяржавы рабочых і сялян". Чытаючы вершы Дудара і ведаючы, які лёс спатыкаў іх аўтара, можна толькі зарыентавацца, чаму ў беларускай літаратуры апошніх дзесяцігоддзяў так цяжка знайсці штосьці, што пазбаўленае было б агульнасавецкіх схемаў. Не здзіўляе сёння тое, што ўсялякія „аўтарытэты" ў беларускіх газетах і часопісах заклікаюць захаваць рускую мову як асноўную для грамадскага жыцця Беларусі. Пераконваюць, што толькі яна дае магчымасць зразумець Дастаеўскага, Талстога і ... таварыша Ульянава. Пасля дзесяткаў гадоў каланіяльнага быту, мову каланізатараў пачалі лічыць сваёй. Сталін раней чым Гітлер зразумеў, што адабраць народу інтэлігенцыю, расстраляць літаратараў і спаліць іх творы — гэта пазбавіць народ яго душы. Сталіца Беларусі астаецца жывым доказам савецкіх каланіяльных эксперыментаў. Вялікі брат адабраў душу і гонар, прыслаў сваіх хазарскіх слугаў і падарыў мангольскую дэмакратыю. Другі „вялікі брат" у той час, у заваяванай сабой частцы Беларусі не дапусціў нават, каб нараджаліся паэты. Чужым багам і чужыя малітвы складаць у ахвяру прымушаны былі беларускія дзеці,

Што мог пісаць паэт, гледзячы на канаючую Бацькаўшчыну?

Алесь Дудар (сапраўднае прозвішча Дайлідовіч) нарадзіўся 24 снежня 1904 г. у вёсцы Навасёлкі Мазырскага павета. Маючы 19 гадоў сарганізаваў літаб'яднанне „Маладняк", дзе разам з Чаротам, Вольным і Пушчай пачаў выдаваць часопіс пад такім самым загалоўкам. У сваіх першых творах захапляўся Кастрычніцкай рэвалюцыяй, бескрытычна верыў бальшавікам і лічыў, што дзякуючы іх палітыцы ўваскрэсне беларускі народ.

*Над нашаю калыскаю*
*Не сумны матчыны спеў.*
*Грымелі дні агністыя.*
*Змагання гром гудзеў.*

Вера і энтузіязм пачалі гаснуць разам з поспехамі „сацыялістычнага будаўніцтва", абвінавачаннямі, заключэннем і расстрэламі інтэлегенцыі, нахабнай русіфікацыяй Бацькаўшчыны. Не рэвалюцыя і сацыялізм сталі цікавіць паэта, але краіна, народ, родная вёска.

*Я радзіўся за хатай пад плотам,*
*Дзе з крапіваю шэпчацца вецер*
*А мой край — лясы ды балоты*
*Даражэй мне за ўсё на свеце.*
*Усё люблю я ў табе, край мілы —*
*Край мужычага хамскага роду,*
*Край, дзе з цэлага свету грамілы*
*Да багацця шукалі дарогу.*
*Хто ж мой край асмяяў,*
*абняславіў,*
*Згвалтаваў беларускія мары —*
*Хай спытае паноў у Варшаве,*
*Хай спытае маскоўскіх*
*жандараў.*

Верш гэты, зразумела, не мог быць надрукаваны пры жыцці паэта. Яго рукапіс знайшлі нядаўна сярод матэрыялаў менскай палітычнай паліцыі. Быў ён доказам антысавецкай дзейнасці Алеся Дудара. Аднак не гэты верш прывёў паэта да абвінавачання і звання „нацыяналіста", „ворага народа", „здрадніка Савецкага Саюза".

*Пасеклі наш край папалам,*
*Каб панскай выратаваць ласкі.*
*Вось гэта — вам, а гэта нам*
*Няма сумлення ў душах рабскіх.*
*За ўсходнім дэспатам-царком*
*Мы бегаем на задніх лапках,*
*Нью-Йорку грозім кулаком*
*І Чэмберлена лаем трапна.*
*Мы не шкадуем мазалёў.*
*Мы за чужых праклёны роім,*
*Але без торгу і без слоў*
*Мы аддаем сваіх герояў.*
*Не смеем нават гаварыць*
*І думаць без крамлёўскай візы.*
*Без нас усё робяць махляры*
*І міжнародныя падлізы.*
*Распаўся б камень ад жальбы,*
*Калі б ён знаў, як торг над намі*
*Вядуць маскоўскія рабы*
*З вялікапольскімі панамі.*

*О ганьба, ганьба! У нашы дні*
*Такі разлом, туга такая!*
*... і баюць байкі баюны*
*Северно-западнага края.*
*Плююць на сонца і на дзень.*
*О, дух наш вольны, дзе ты,*
*дзе ты?*
*Ім мураўёўскі б гальштук ўдзець,*
*Нашчадкам мураўёўскім гэтым...*
*Але яшчэ глушыце кроў*
*Гарыць душа і час настане,*
*Калі з-за поля, з-за бароў*
*Па-беларуску сонца гляне.*

Верш гэты напісаны ў канцы 1929 г. як вынік роздумаў паэта над лёсам „Грамады", стаў канспірацыйным гімнам студэнцкай моладзі Менска. Маладыя інтэлігенты перапісвалі яго і вучыліся на памяць. Савецкая ўлада не выбачыла такіх „злачынстваў". Дудар патрасаў сумленнем падзеленай і прыніжанай Беларусі. У час, калі нават маўчанне было небяспечнае, калі паэты хвалілі „бацьку народаў", перамогі чэкістаў і чырвонаармейцаў, прыгажосць і справядлівы парадак савецкага краю, паэт пісаў: „Не смеем нават гаварыць і думаць без крамлёўскай візы". Амаль сем гадоў трывалі кашмарныя доследы над тым, хто інспіраваў паэта да антысавецкай творчасці. Бальшавікам цяжка было паверыць, што хтось непрымушаны можа напісаць: „О ганьба, ганьба! У нашы дні", ведаючы, якія за гэта могуць быць паслядоўнасці. Алесь Дудар, так як і шмат іншых літаратараў вырашыў, што лепш коратка быць вольным чалавекам, чым зняволеным слугам пачвараў.

**Я. М.**

## ДЗІКІ ПТАХ ВЕРАБЕЙ, МІРЫ ЛУКШЫ

Сардэчна дзякую за кніжку. "Дзікі птах верабей" я прачытаў за адзін вечар. Высылаю вам сваю "рэцэнзію" на яе тэму. Пакуль што, гэта першая частка, бо ў адной немагчыма дасягнуць поўнай глыбіні, ахапіць усё і паказаць чытачам.

"Дзікі птах верабей" - загаловак кніжкі Міры Лукшы, што працуе ў рэдакцыі "Нівы". Добра памятаем яе цікавыя вершы, што ўжо даўно друкуюцца ў нашым родным часопісе; не горшыя і нарысы, з якіх складаецца гэтая кніжка. Маладая таленавітая аўтарка пастаралася праўдзіва паказаць вобраз нашага жыцця - беларусаў на Беласточчыне на працягу дзесяткаў гадоў - ад вайны да сённяшніх дзён. І беларуса прадставіла як "дзікага птаха вераб'я", але гэта не знявага для нас, а пашана, хоць птушка верабей, як ведаем, у пашане ў нас невялікай. Проста, мы не заўважаем карысці, якую нам прыносіць гэтая сціплая пташка. Гэты наш штодзённы спадарожнік невялікі хітрун, бо ўвечары можна яго асляпіць святлом ліхтарыка, калі ён зашыецца на падстрэшшы ды мірна спачывае. Ці ж віна вераб'я, што ён гэтым шэрым вераб'ём нарадзіўся?.. Шпак вось у пашане, нават домікі яму робім... А шпак аб'есць нашы дрэвы з пладоў. Верабей паесць любіць і зерня, але колькі пераесць розных шкоднікаў - не падзякуем яму. Спакойны, прывыклы да аднаго месца птах. Здаецца, мы, вераб'і, нікому ў скуру не ўеліся, але ці даражым нашым падстрэшкам? І пуста чырыкаем... У навелы "Лес" Міра расказвае пра нашых продкаў з пушчанскіх вёсак. У крыві застаўся адзін нораў, які сёння называецца "інстынкт самазахавання". Мо дзякуючы гэтаму інстынкту не пагасла ў нашай душы наша роднае - беларускае, мова, звычаі, гісторыі, абрады... Бо хто адрокся ад гэтага пачуцця, паляцеў у вечны вырай. Іншым ён птахам стаў. Не зможа вярнуцца да роднага. Не пазнае блізкага. Не з сям'і ён ужо вераб'інай. Знікаюць нашыя пушчанскія вёскі, вылятаюць нашыя птахі...

Навелы Міры Лукшы кароценькія, але багатыя: у іх і родны краявід, і абычай, наш штодзённы быт і мары, радасці і трывогі. Усё неяк сумна канчаецца, без аптымізму, хаця гэта не сказана проста. Якія мы людзі? Навела "Камень" адказвае на гэта. Наша непавага і здрада ёсць цернем непакорлівасці адзін да аднаго. Няшчасная бабка Катрынка, здаецца, амаль "божая істота", пры канцы свайго жыцця выказала свой грэх перад маладым Лукашыкам, як сваімі чарамі і ведамі разбіла жыццё сваёй вернай сяброўкі Надзейкі і любага Пранцішка, і просіць у Бога прабачэння. На жаль, такія мы людзі; перад смерцю, можа, даведаемся, што зрабілі... Можа, нам далёка да божых вераб'ёў?

Кніжка Міры Лукшы чытаецца з прыемнасцю. У ёй так праўдзіва апісана наша нялёгкае жыццё-быццё. З гэтай кнігі я многа даведаўся.

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**




*МІРА ЛУКША*

### ЛІСТ

У кляновы лісток твае скура, храсток
Пераходзяць з пражылкаў у жылы;
Паглядзі на яго пад жывое святло:
Зазяленіцца кроў хларафілам.

Запарушыўся камень, і разбітае шкло
Воч слязлівых блакітнае далі.
Пацякла па пагорках твая горкая кроў,
Вусны пошумам дрэў зашапталі.

Заварушыцца глеба, і з костак старых
Шчэ раз ў корань пакоціцца сіла.
Не пакінуць дзяды нас, нашчадкаў, адных,
Калі мы не затопчам магілы!

## З ДЗЁННІКАЎ С. ЯНОВІЧА

**2 красавіка 1989 г.**

Відаць, здарылася важнае: выступіў на шматлюдным Незалежным форуме культуры ў Варшаве, учора. Перад тысячнай элітаю польскай інтэлігенцыі. Нашым справам на практыцы гэта ні ў чым не дапаможа, але маральна - мяркуючы па рэагаванні - пэўна так! (...)

Адбыўся гэта свайго роду працяг Кангрэса польскай культуры, перапынены ваенным становішчам у ПНР 13 снежня '81. (...)

Бачыўся з мноствам знаёмцаў; некаторых ледзь было ўжо пазнаць, фізічна, пасля столькі гадоў. (...)

**24 - 04 - 1989 г.**

Учора - з БССР (17 - 23-га). У вельмі цяжкім настроі. З гэтай расійскай калоніі. Там трэба пакаленняў, каб вывесці беларусаў з сітуацыі эмігрантаў ці бо рэшткі колішняй нацыі.

Быў з дэлегацыяй - з Леанчуком, Смашчам, Шведам, Сідорскім, Амільяновічам. У рамках Дзён польскай культуры. Гародня, Ліда, Наваградак, Мінск, Слонім... (...)

Калі ты баішся ўпасці духам як беларус, не едзь у БССР!

Удома застаў навіны, якіх спадзяваўся. - Беластоцкая "Салідарнасць" дала рашучы адпор націскам цэнтральнай, каб падтрымаць у выбарах маю кандыдатуру ў Сенат і Геніка Мірановіча - у Сойм, яшчэ і ахрысціўшы нас ворагамі... палякаў! Нашы кандыдатуры былі высунуты на сходзе Беларускага клуба з удзелам Кастжэвы з Грамадзянскага камітэта Валэнсы; 16-га (?) адбыўся спешным парадкам - у маёй кватэры - намаганнямі нястомнага Яўгена Вапы. Хоць выйгрыш быў бы немагчымы нават у выпадку тае "салідарніцкай" падтрымкі тут, аднак змяніла б яна ў нейкай ступені да лепшага татальную варожасць польскай стыхіі да беларускай. Палякі праявілі сваю недальнабачнасць, па традыцыі ўжо штурхаючы нас у супраціўны ад сябе бок.

З праваслаўнікамі - чую - таксама нерэальны саюз. Адны самі мы нічога ў перадвыбарнай кампаніі не зваюем ва ўмовах рахітычнай нацыянальнай свядомасці, скампраметуемся. (...)

**10 траўня 1989 г.**

(...) адбылася рэгістрацыя маёй кандыдатуры ў Сенат (зрабілі тое Віктар Стахвюк, Юрка Каліна, Юры Латышонак; важных подпісаў - 5071, пры патрэбным мінімуме 3000). Усё яшчэ прывозяць з правінцыі далейшыя спіскі подпісаў (сёння больш тысячы). Гэтая акцыя нечакана ажывіла некаторыя беларускія асяроддзі, і то да такой ступені, што праваслаўнікі як бы мякчэюць, хочуць разам рабіць адны, супольныя, плакаты... Арыфметыка выбараў: беларусаў на Беласточчыне каля трэцяй часткі ўсяго насельніцтва, пры тым не мусяць жа ўсе яны галасаваць на сваіх, на нас двух (Піўніка і мяне); істотныя вынікі былі б магчымыя толькі ва ўмовах вялікай колькасці польскіх кандыдатаў, на якіх распыліліся б галасы палякаў. У нейкай меры разлічваць на ўдачу мог бы беларуска-праваслаўны саюз, выстаўляючы на выбары ў Сенат не двух, але аднаго кандыдата. Так не здарылася, і - па віне праваслаўнікаў - нават не дайшло да такога саюзу.

Бліжэйшыя выйгрышу шанцы ў Яўгена Мірановіча як кандыдата ў паслы. У яго правінцыяльнай акрузе - беларусаў амаль палова ўсяго там насельніцтва, і чатыры мандаты.

(...) Адчуваю, што галасоў атрымаю нямала, але не столькі, каб перамагчы. Гэта пакажа нашы рэальныя ўплывы, маштабы іх. Гэта неблагая школа палітыкі, і толькі дзеля яе аднае ёсць сэнс пагуляць у выбары. (...)

*(Працяг будзе)*

*Тлумачэнні:*
** Ян Піўнік - педагог, кандыдат у Сенат ад імя руху праваслаўных.*



 

# НАШЫЯ ТАТАРЫ І ТАЛЕРАНТНАСЦЬ

Бадай найболш частай і моднай тэмай мясцовай і цэнтральнай польскай прэсы ў апошнія гады з'яўляецца тэма аб польскіх мусульманах, якіх няслушна завуць у нас татарамі, і якіх асталася толькі маленькая жменька ўсяго. Пра іншыя, значна большыя меншасці, у нас так многа і прыгожа не пішуць. І дзіву даецца чалавек, чаму так стройна і весела пачалі пець татарам "за здравіе", калі трэ сумна пець "за ўпакой". А мо менавіта таму?!

Амаль усе артыкулы на гэтую тэму вельмі ж падобны адзін на аднаго. Традыцыйна расказваецца ў іх аб сучасным жыцці нашых татараў, іх звычаях, традыцыі, веравызнанні; апісваецца мясцовасці, у якіх найбольш іх пражывае, а таксама крэсліцца кароткая гісторыя іхняга прабывання на нашых землях. І абавязкова даецца здымак мячэці.

Прачытаўшы такі артыкул хутка пераконваешся, што аўтарам іх не так ужо хацелася паказаць саміх татараў і пазнаёміць чытача з іх жыццёбыццём на нашых землях, а хутчэй паказаць, як добра і справядліва жылося ўсім іншапляменцам і іншаверцам у Польшчы. А ўжо гэтых татараў дык проста на руках насілі, распешчвалі, так выглядае. Адным словам, аўтары трактуюць свае артыкулы пра татараў як яшчэ адну нагоду прыпомніць свету аб традыцыйнай польскай талерантнасці. Маўляў, ведай нашых!

Якое ж было маё здзіўленне і злосць на аўтара Яна Станкевіча, прачытаўшы яго працу, выдадзеную яшчэ ў 1933 г. у Вільні, пад загалоўкам "Беларускія мусульмане і беларуская літаратура арабскім пісьмом". Дакладна прачытаў я некалькі разоў, але ў месца традыцыйнай польскай талерантнасці знайшоў нешта дакладна адваротнае. Вось гэта "нешта" і прычынілася да таго, што з людной і стройнай татарскай меншасці асталася толькі маленькая жменька. Давайце супольна прасочым гэтую працу.

Адкуль і калі ўзяліся мусульмане ў Польшчы?

Калі Вялікае княства Літоўскае, састаўной часткай якога і была Беларусь, было далучана да Каралеўства Польскага, грамадзянамі Рэчыпаспалітай сталі і мусульмане, якія жылі сярод беларусаў і ў Беларусі. На Беларусь жа, у сваю чаргу, яны трапілі значна раней або як палонныя, узятыя на вайне, або як палітычныя ўцекачы /па-нашаму азылянты/ са сваіх краін, або каланісты з татарскіх аддзелаў, якія дапамагалі беларуса-літоўцам у войнах з суседзямі.

Першыя звесткі аб татарах у Беларусі паходзяць з пачатку XIV ст. У 1319 годзе яны бралі ўдзел у вайне супраць крыжакоў. Але найбольш татараў паявілася на беларускіх землях у часы панавання вялікага князя Вітаўта /1386-1430/. У 1396 г. ён зрабіў паход супраць татараў за Дон. Палоннікі, узятыя ў час гэтага паходу, былі паселены ў Беларусі. Перад Грунвальдскай бітвай у 1410 г. хан Залатой арды Цімур, з якім Вітаўт быў у добрых адносінах, прыслаў яму ў дапамогу супраць кражакоў некалькі тысяч коннікаў пад камандай Джэляль-эд-дына. Пасля вайны з крыжакамі частка гэтых ваяўнікоў асталася ў Беларусі. Яны атрымалі ад князя зямлю за нясенне вайсковых паслуг.

Падобны наплыў татараў у Вялікае княства Літоўскае адбываўся за ўвесь час панавання Вітаўта і яго наследнікаў.

Вялікі князь Вітаўт сяліў татараў паміж беларускім насельніцтвам у Троцкім, Віленскім, Ашмянскім, Лідскім, Наваградскім, Берасцейскім, Бельскім, Сакольскім і іншых паветах. Вышэйшым класам перасяленцаў даваліся шляхецкія прывілеі і вялікія зямельныя надзелы. Апрача таго вялікія князі, асабліва Вітаўт, давалі гэтым класам розныя дары.

Тутэйшыя татары мелі сваю вайсковую арганізацыю. Першым іх маршалкам быў Тэмір Туган-бэй, князь з Дагестана. Усё мусульманскае войска дзялілася на сцягі /пазней харугвы/. У час вайны камандзір вёў свой сцяг да адпаведнага ваяводы ці польскага гетмана. Галоўная каманда татарскага войска знаходзілася ў Вільні. Хто ішоў на вайну, той не плаціў ніякіх падаткаў.

Апрача мусульман-ваякаў былі ў Беларусі яшчэ мусульмане, якія жылі ў гарадах і займаліся промыслам і агародніцтвам. Яны плацілі падаткі.

Пры ваяводскіх урадах былі яшчэ так званыя татары-казакі, якія працавалі кур'ерамі.

Паміж сабою ў рэлігійных і грамадскіх справах мусульмане судзіліся паводле Карана. Ужыванне Карана, як юрыдычнай кнігі, было пацверджана ім вялікімі князямі. У зносінах жа з беларускім і іншымі насельніцтвамі падлягалі яны агульнапрызнанаму праву, гэта значыць Літоўскаму Статуту.

Да канца існавання Вялікага княства Літоўскага мусульмане ў Беларусі мелі поўную рэлігійную свабоду. Бесперашкодна падарожнічалі таксама ў святыя месцы ісламу - Мекку і Медыну.

Па смерці кожнага вялікага князя мусульмане адпраўлялі па ім службы ў мячэцях. Асабліва вялікай пашанай карыстаўся ў іх князь Вітаўт. За яго маліліся, як за сваіх каліфаў. А пасля яго смерці кожны год адзначалі таксама дзень яго памяці.

Ваякамі нашы мусульмане былі добрымі. Ваявалі часта і не толькі з Масквой ці іншымі еўрапейскімі непрыяцелямі Вялікага княства Літоўскага і Польшчы. Ахвярна ваявалі і супраць сваіх аднаверцаў - крымскіх татараў і туркаў. У 1510 г. татарскія орды пустошылі паўднёвыя землі Вялікага княства Літоўскага. Супраць іх выступіў князь М. Глінскі. У яго войску былі і нашыя татары. Калі крымскія татары пачалі іх клікаць да сябе, нашы ім адказалі: "Ані Бог, ані Прарок не кажа вам грабіці, а нам быць няўдзячнымі; б'ючы вас, мы б'ём грабежцаў, але не нашых братоў". І тыя былі пабітыя.

*(заканчэнне будзе)*

**В. АНТАНЮК**



**Паважаны спадар Д. Шатыловіч!**

Пытаеце мяне ў сваім артыкуле "Камуністычная мана" ("Ніва", н-р 9) калі і дзе пісалі Вы камуністычную ману. Калі ласка - не трэба далёка шукаць - у Вашым апошнім артыкуле! Хочаце пахваліцца сваімі ведамі і цытуеце ўрывак Евангелля паводле Мацвея р. 5, в. 22 : "Хто скажа (брату свайму) "бязбожнік" - падвяргаецца кары геены вогненнай". Відаць, Вы новы перакладчык, калі так напісалі, бо ў сапраўднасці напісана так: "А я гавару вам, што кожны, хто гневаецца на брата свайго дарэмна, падлягае суду; а хто назве брата свайго пустым чалавекам, падлягае санхедрыну; а хто назве шалёным, падлягае геене вогненнай". І дзе ж тут слова "бязбожнік"? А ці знаеце, што Вас чакае за тое, што свядома перакрунулі Слова Божае? Адказ знойдзеце ў Апакаліпсісе Іаана Багаслова р. 22, в. 18 : "...сведчу кожнаму, хто чуе словы прароцтва кнігі гэтае: калі хто **даложа** да гэтага, узложыць на яго Бог плягі, напісаныя ў кнізе гэтай". Вось бачыце, чакаюць Вас плягі і геена вогненная за тое, што далажылі са сваёй галавы. Гэта адна мана, а другая крыху далей: у цытуемым вершы пішаце, што бальшавікі "з царквы здымаюць векавую гразь". Яны ж трымаліся толькі паўвека - адкуль "векавая" гразь: ад узнікнення царквы? Трэцяя мана датычыць майго адыходу з партыі: адыходзячы я з нікім не сварыўся - пра гэта можна распытаць былых членаў партыі. Чацвёртай Вашай маной з'ўляецца тое, што мае меркаванні на тэму артыкулаў Алеся Барскага лічыце паклёпам. Дзе ж я скрыўдзіў няслушна аўтара і пісаў паклёпы? Тое, што знаходжу ў яго публікацыях нейкія памылкі гэта не паклён: я папраўляю іх. Да Вас, спадар Шатыловіч, я адчуваю пашану, бо Вы беларус, вучоны і здольны паэт, шкада толькі, што далі сябе абдурыць такому простаму Панфілюку.

Яшчэ некалькі слоў да Юльяна Казберука. Калі гэта праўда, што Вы напісалі ў сваёй адгалосцы наконт ордэна Я. Мартынюка, дык маеце рацыю і прашу ў Вас прабачэння. Відаць я дрэнна зразумеў (а мо забыў) публікацыю Ул. Юзвюка ў "Беларускім календары".

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**

## ЗАЯВА

Не буду ў "Ніве" палемізаваць з артыкулам аўтарства такога беларускага аўтарытэта як прафесар Аляксандр Баршчэўскі. У гэтым артыкуле апісаў ён мяне як агрэсара і арганізатара бандыцкага нападу на клуб Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Варшаве. Чытачы не павераць жа пяснeнням "бандыта".

У гэтай справе раследаванне вядзе варшаўская пракуратура. Калі яно закончыцца, тады і аўтар гэтага артыкула будзе мець магчымасць зазнаёміцца з фактамі, а не толькі выдуманымі даносамі, так як ён сам не быў сведкам гэтага здарэння. У выпадку калі спадар Баршчэўскі не пацікавіцца тым, каб выраўнаць маральную шкоду, нанесеную гэтым артыкулам (згодна з маёй просьбай - "Ніва" н-р 10 / 1993 ), усё ж такі буду даходзіць сваіх правоў у судзе.

Хачу яшчэ дадаць, што 8 сакавіка 1993 г. дастаў я пісьмо ад спадара Баршчэўскага і хаця беларускую мову ведаю, аднак не даў рады гэтага рукапісу прачытаць.

Усіх зацікаўленых запрашаю паразмаўляць на гэтую тэму пасля расследавання справы пракуратурай.

**ЯЎГЕН САЛАГУБА**

P.S. У "Часопісе" н-р 2/1993 прачытаў я інфармацыю, што на другі дзень пасля гэтага здарэння сарганізаваў я п'янку, на якую запрасіў і спадара Баршчэўскага. Я такой імпрэзы не помню, хаця ў жыцці яшчэ п'яным не быў.



**Частка XXXIV**

## БЕЛАРУСКІЯ КАПІТАЛІСТЫ

Удалося мне сустрэць выключнага беларускага капіталіста. Выключнасць яго заключаецца ў тым, што ён вельмі добра валодаў беларускай мовай. Каштоўнасць гэтай асобы для маіх публікацый заключаецца, аднак, перад усім, у яе „філасофіі жыцця”. Чалавек, аб якім ідзе гутарка якраз малады, яму не больш чым 30-35 гадоў. З яго выгляду і гутаркі прабіваецца несумненна інтэлігентнасць. На мой погляд напатканы мною чалавек з'яўляецца прадстаўніком „звярынага” капіталізму. Я праехаў з гэтым капіталістам у аўтобусе каля трохсот кіламетраў і пад дастаткам наслухаўся яго апавядаў. Вось вытрымкі з яго маналагічных прызнанняў, ацэнак і дэкларацый:

„Прыйшоў новы лепшы час. Перыяд камуністычнай ураўнілаўкі закончыўся. Калісьці, як гэта гаворыцца, і жук, і жаба мусілі атрымаць ад дзяржавы і бясплатныя яслі, і дзіцячы сад, і бясплатную школу, і універсітэт, і работу, і бясплатную кватэру, і амаль бясплатны курорт, і бясплатнае медыцынскае лячэнне.

Дзяржава была нянькаю і анёламахоўнікам для кожнага. Кожны, усёроўна ці разумны, ці дурны, атрымліваў тое самае і толькі сама. А часта дурны атрымліваў больш чым разумны. Пра партапарат дык ужо не буду гаварыць. Вы мяне пытаеце, што я рабіў дагэтуль. На гэта пытанне вам не адкажу. Прызнаюся, жыў нармальна, не галадаў. Умеў выкарыстаць для сябе і камуністычныя парадкі. Аднак камунізм мяне скоўваў, не пазваляў разгарнуць крыллі. Сёння канчаткова путы зняты з маіх мазгоў. Вы здзіўляецеся, што я валодаю беларускай мовай. Прызнаюся, што я яе вывучыў нядаўна. Чаму? Таму, што яна праўдападобна паможа мне прабівацца ў жыцці, здзяйсняць свае інтарэсы. Беларуская мова для мяне не з'ўляецца наказам жыцця. Дома ёю карыстацца не намерваюся, для гэтых мэт маю мову лепшую, але беларуская мова, калі не сёння дык можа заўтра станецца ключом ці інструментам, а можа адмычкай для бізнесу.

Вы паглядзіце на звярыны свет. Ці вы думаеце, што ў ім існуе хаос? Не, у ім вечная гармонія, а пры гэтым і барацьба за быт і за выжыванне. Хто сільнейшы, той выжывае, хто слабы, хворы або мала хітры — той гіне. Чалавек ёсць неад'емнай часткай прыроды і ён мусіць стасавацца да яе законаў. Існаванне — гэта барацьба. У барацьбе перамагае сільнейшы і разумнейшы, слабейшы і дурнейшы гіне. Усе гэтыя вучэнні аб роўнасці, братэрстве, альтруізме чалавецтва наіўныя, дурныя і шкодныя. Яны дэмабілізавалі людзей. А найгоршае ў тым, што пазвалялі жыць аднолькава дурню і разумнаму. Такое вучэнне ішло ў разрэз з істотай прыроды, якая абапіраецца на змаганні і панаванні мацнейшых над слабейшымі. Так, я прызнаюся: займаюся інатрэсамі, гаворачы канкрэтна — гандлем. Займаюся перапраўкай з Расіі ў Беларусь, а то і далей на захад пэўных тавараў. Скажу вам шчыра, у маіх інтарэсах няма сентыментаў і няма пачуццёвасці. Справа выглядае проста. Калісьці было так званае „купецкае слова”, якое мела вартасць большую за золата. Сёння такога паняцця і такой з'явы няма. Сёння мусім вуха трымаць востра. Прызнаюся, што за кожным разам калі еду ў Сібір развітваюся з домам, так як бы меў у яго не вярнуцца болей. І зусім магчыма, што за нейкім там разам не вярнуся! Я весь час хаджу па вастрыі нажа. Я — каскадзёр! Гуляю ў хованкі са смерцю. Так, я прывожу галодным грошай, але і мяне могуць прывезці ў труне. А можа быць і так, што майго цела ніхто і ніколі не знойдзе. Ну, дык скажыце, ці я павінен зарабляць толькі, што зарабляе чыноўнік, які ў цёпленькім бюро сядзіць з дзевяці да сямнаццаці і спакойненька вяртаецца ў абдымкі жонкі? Не, я павінен зарабляць тысячу разоў болей, бо я рызыкую. Рызыка павінна аплочвацца. Мяне не цікавяць бедныя і сіроткі. Я не перашкаджаю нікому ўзбагачацца, але сатру, калі нехта будзе перашкаджаць мне”...

Далейшыя прызнанні капіталіста ў наступным нумары.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

# Зорка

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## "ЖУРАВІНКА" З "ТРОЙКІ"

Зараз да конкурсу "Беларуская песня - 93" рыхтуюцца вучні падставовых школ на Беласточчыне. У тым ліку між іншым чатырнаццаціасабовы дзіцячы калектыў "Журавінка" з Падставовай школы н-р 3 у Бельску-Падляшскім. Ад пачатку верасня 1992 года вядзе яго інструктар Сяргей Лукашук (ён, як вядома, з'яўляецца дырэктарам Бельскага дома культуры).

Другакласнікі, бо якраз яны складаюць галоўную частку ансамбля, спяваюць песні, між іншым "Журавінка", "Рыбакі", "Кую ножку", "Камар" і "Чыжык". Песенны рэпертуар у іх выкананні, вядома, куды багацейшы. Назваў я толькі некаторыя загалоўкі "іх" беларускіх песень. Варта дадаць, што так званую рухавую інсцэніроўку да спомненых песень спецыяльна для "Журавінкі" падрыхтавала Людміла Спірыдонава, дырэктар Раённага дома культуры ў Ашмянах (Рэспубліка Беларусь). Яна прывезла з Беларусі і падарыла дзіцячаму калектыву "Журавінка" ды вядомаму ў Беластоцкім краі а нават далёка за яго межамі мешанаму бельскаму хору "Маланка" пяць народных беларускіх драўляных музычных інструментаў.

Жадаем бельскім "Журавінкам" вялікай удачы на цэнтральным аглядзе песеннага конкурсу!

**ЯНКА ДАРОЖНЫ**



*— Жылі раз Зайка Белячок і Зайка Русачок...* **Фота Міры Лукшы**

Вучнёўская творчасць

## КАЗКА ПРА ЦМОКА, ЯКІ НІЧОГА НЕ ЕЎ

Жыў на Зямлі цмок, які нічога не еў. І быў у яго чорны кот, які вельмі хацеў, каб ягоны гаспадар пачаў есці іншапланецянаў, якія харчаваліся катамі.

Аднойчы кот упаляваў вялізнага арла Хайтса.

— Не з'ядай мяне! — пачаў маліць Хайтс.

— А як жа інакш? Калі я цябе не з'ем, дык ты такога наробіш!.. — сказаў кот.

— Я выканаю любое тваё жаданне! — прасіў арол.

— Няўжо?! — падскочыў кот.

— Так, выканаю. Толькі адпусці мяне!

— Ну, добра. Ты паляціш на планету Чорнага Яшчара і прынясеш мне бішкішмэна. Аднаго з тых, што ядуць катоў. — загадаў кот.

— Добра, — згадзіўся Хайтс.

— Толькі звяжы яго, — мяўкнуў кот. — Ляці ж!

Кот пабег да цмока, які ў гэты час з жахам разглядаў вялізны кавалак шынкі.

— Як жа гэта ядуць? — мармытаў цмок.

Тут падскочыў кот.

— І не думай гэта есці! Ты пакаштуеш іншапланецяніна і табе спадабаецца.

— Вельмі ўжо! Змоўкні! Ведаеш, я тут абмяркоўваю адну ідэю. Можа мне й сапраўды пачаць есці. Але з чаго пачынаць?

— Давай пачынаць разам, — адказаў кот.

Арол ляцеў доўга. І вось, нарэшце, ён трапіў на планету Чорнага Яшчара. А там, сядзяць сабе бішкішмэны і ядуць дохлых катоў. Арол закінуў вяроўку на самага вялікага бішкішмэна і звязаў яго. Схапіў арлінай хваткай і стралой паляцеў на Зямлю.

Кот убачыў яго.

— Вось табе і бішкішмэн, — сказаў арол, падаючы кату вялізны скрутак, з якога даносілася: „Адпуссссціі мяне, я ддам ттабе ккатаа!"

— Мурр, мурр. Нікуды я цябе не адпушчу. Цябе з'есць вельмі галодны цмок. Мурр, мурр, — весела адказаў кот і панёс здабычу свайму гаспадару.

Але ўбачыўшы бішкішмэна, цмок незадаволена сказаў:

— Які ён брыдкі, слізкі і вельмі, вельмі злы.

— Ну, паспрабуй, адкусі маленькі кавалачак, — маліў чорны кот.

— Не еш мяне! — закрычаў бішкішмэн. — Я засялю катамі адну вельмі прыгожую планету, і ніводзін бішкішмэн не дакранецца да іх. А для цябе, цмок, я прынясу шмат золата, дыяментаў ды смарагдаў, а галоўнае, сапраўднай цмокавай ежы. Бо я кароль бішкішмэнаў — Чорны Яшчар.

Цмок вырашыў пагадзіцца, бо вельмі не хацеў есці брыдкага бішкішмэна. І не пашкадаваў.

Чорны Яшчар насяліў планету катамі, прынёс абяцанае багацце і вельмі смачную цмокавую ежу.

І цяпер кожны дзень цмок з'ядае амаль па дзесяць талерак выдатнай цмокавай ежы. А ягоны кот гуляе з дыяментамі і спажывае толькі выдатнае курынае мяса.

Хайтсава жонка нарадзіла арлу трох арлянят і назвала іх у гонар чорнага ката.

**МАР'ЯНА КУДРАЎЦАВА**
**вучаніца 3 класа с/ш н-р 75 г. Менска**

*ІВАН КУРБЕКА*

## ШАРАДЫ

Слова
Са словам
Складзі -
Сэнс
Аб'яднаны
Знайдзі.

* * *

Мой пачатак -
Навальнічны,
Рэшта -
Водарасцей слой,
А ўсё разам -
Я камічны,
Мудры казачны герой.

* * *

Са злучнікам
Часціца
Побач стала -
І атрымаўся
Верш Купалы.

* * *

З нотай
Прыназоўнік
Уступілі ў лад -
Утварылі разам
Баявы снарад.

* * *

Да дрэва
Кіпень
Прыкладзі -
У першы клас
Са мной
Ідзі.

* * *

Часціца
З каміяніцай
З'ядноўваюцца
У пару.
Прад намі
Каб з'явіцца,
Героем стаць
Гайдара.

* * *

Прыназоўнік,
Дужа прыткі,
Даў лічэбніку
Руку -
І стварыў увачавідкі
Беларускую раку.

* * *

Я ўжо народжана
Такою,
Што караблям
Служу бядою,
Для іх -
Ну, проста нерат.
Калі ж спакойна
Уперад
Паставіш
Дрэў
Ахоўны слой,
Ты зможаш
Ласавацца мной.

* * *

У гарах блукаю
Дзікі
Сваёй першай часткай.
А другою -
Невялікі
Я зямельны ўчастак.
Поўным словам -
Я такі:
Мяне цэняць
Маракі.

(як + ар, кара + мель, Пры + пяць, Цімур, бук - вар, мі + на, "Але - ся", Бу- раціна)

## НА ПАРОЗЕ САМАСТОЙНАГА ЖЫЦЦЯ (2)

Непаразуменне паміж бацькамі і дзецьмі іншым разам узнікае і па надзённых жыццёвых пытаннях, напрыклад, калі хтосьці з вас, сыноў (дачок), выбірае не тую прафесію, аб якой марылі бацькі. Так было ў сям'і Сярожы Р., дзесяцікласніка. Маці ўсё часцей заводзіла гаворку пра паступленне ў медыцынскі інстытут. Доўга сын моўчкі слухаў, але аднойчы рашуча заявіў: "Мама, я ўжо не маленькі. Сам разбяруся, што мне рабіць далей".

Да гутаркі пра медінстытут болей не вярталіся, але менавіта пасля яе ў адносінах бацькоў і сына пралягла першая трэшчына.

Варта, аднак, падумаць, ці патрэбна вось так катэгарычна накладваць "вета" на ўдзел бацькоў у тваіх справах. Ды і ці толькі цябе аднаго датычыцца такая важная жыццёвая праблема? Пастарайся і ты зразумець бацькоў. Можа, хтосьці з іх хацеў, каб ты здзейсніў іх неажыццёўленую мару, якую яны выношвалі доўгія гады. Ці можна быць такім рэзкім, непахісным у дадзеным выпадку?

Ці не лепей пастарацца пераканаць бацькоў, што ў цябе таксама ёсць свая мара, свае планы, свае інтарэсы і схільнасці, што да той прафесіі, аб якой мараць бацькі, у цябе няма прызнання. І тады ім, напэўна, будзе лягчэй прымірыцца з тваім выбарам. Важна толькі праявіць пры гэтым вытрымку і такт.

Што, па-твойму, яднае членаў сям'і? Напэўна, добры мікраклімат, добразычлівыя адносіны ў сям'і, правядзенне разам вольнага часу, праяўленне інтарэсу да спраў адзін аднаго, сумеснае вядзенне фінансавых спраў, самаабслугоўванне, дружная праца па дому, сумеснае абмеркаванне "праблемных" пытанняў (асаблівасці пераходнага ўзросту, каханне, выбар сяброў, прафесіі). Усё гэта хвалюе не толькі цябе і тваіх аднагодкаў, але і вашых бацькоў.

А для шчаслівага іх вырашэння сучаснай сям'і патрэбна перш за ўсё педагагічная і псіхалагічная культура ўсіх яе членаў. Дарэчы, ці задумваўся ты калі-небудзь, якімі бацькам ці маці будзеце вы самі, цяперашнія старшакласнікі? У наш час бацькамі быць цяжкавата. Ім патрэбны веды па этыцы і псіхалогіі сямейных адносін, гігіене, фізічнай закалцы і г.д., патрэбны высокія маральныя якасці, развітасць культурных запатрабаванняў і чытацкіх інтарэсаў. І вам самім прыйдзецца ўжо цяпер здабываць гэтыя веды, таму што ваш узрост - самы спрыяльны для самавыхавання і самаадукацыі.

А ці здольны ты прадумаць і рашыць хай невялікую, але важную на дадзены момант сямейную задачу? Падумай, ці добра гэта, калі за цябе пастаянна думаюць і рашаюць іншыя няхай нават з самымі лепшымі намерамі. А дзе ж твая ўласная ініцыятыва, адказнасць? Ці не асуджаеш ты сябе на духоўнае ўтрыманне, калі без канца толькі карыстаешся ўсімі дабротамі, якія даюць табе бацькі? Нездарма В. А. Сухамлінскі выказаў асцярогу, што, калі маральны патэнцыял асобы да васемнаццаці гадоў не склаўся, цяжка чакаць, што такі чалавек і ў будучым сямейным жыцці знойдзе сваё шчасце, здолее зрабіць шчаслівым другога чалавека.

На жаль, расце колькасць маладых людзей, якія толькі пасля вяселля пачынаюць задумвацца аб адказнасці такога кроку, як узяцце шлюбу. І зусім нязбянтэжана і няёмка адчуваюць яны сябе, калі прыходзіцца клянчыць грошы з бацькоўскай пенсіі. Адзін з маладажонаў, не саромеючыся, так і заявіў:

- Для бацькоў павінна быць шчасцем, што мы больш-менш уладкаваліся ў жыцці, атрымалі прафесіі, працуем. Лічу, што маці з бацькам, па магчымасці, павінны ўсё жыццё падтрымліваць сваіх дзяцей. А як жа інакш?

Толькі няспелыя, нястойкія, несамастойныя людзі могуць разважаць так, людзі інфантыльныя, якія не прывыклі да пераадолення цяжкасцей.

*(Працяг у наступным нумары)*

**В. БАЛЦЭВІЧ, Л. ГАРБАЦЕНКАВА**

## Вершы Віктара Шведа

### НЕБА ЗАДЫМІЛАСЯ

Надвор'е цудоўнае,
З подыхам вясновым.
Ната шчасця поўная
Промні сонца ловіць.

Раптам зажурылася,
Сумна стала доньцы:
- Неба задымілася,
Праглынула сонца!

### НАМНОГА СТАРЭЙШЫ

Надумаліся ўлетку,
У цёплы дзень вакацый,
Пабегчы гуртам дзеці
У рэчцы пакупацца.

- Ты больш забрудзіў цела,
А асабліва ногі.
- Ды гэта ж зразумела,
Старэйшы я намнога.

### ДЫЯЛОГ

Будзіць настаўніца Уладка:
- Чаму ты спіш на занятках?
Уладка адказ на пытанне:
- А я не спаў, прашу пані...

- Калі не спаў, абібоку,
Скажы, што пачуў ты на ўроку?
Уладак адказвае гладка:
- "Чаму ты спіш на занятках?"

### БУДУ МЕЦЬ БРАТА

- Была ў шпіталі
Мая матуля,
Мы атрымалі
Сястрычку Улю.

Цяпер хварэе
У шпіталі тата,
Маем надзею...
Атрымаць брата.

### БУСЛІХА

- Мая малая жабка, -
Песціць унучку бабка.
- Мне на ўспамін пра жабу
Становіцца ўжо слаба.

Жабы заўжды, бабуся,
З'ядае грозны бусел.
Лепш, каб не клікаць ліха,
Заві мяне буслíхай.

### ПАЛЯРНЫ КОТ

- Гляньце дзеці, кот прабег,
Белы-белы, як той снег.
Раптам ён на снезе лёг
І не адмарозіў ног,

Хоць мароз шчыпаў да слёз,
Не пужаў яго мароз.
Вось які ахвярны!
- Гэта ж кот палярны!

### ХАЧУ ВЫСПАЦЦА

Да суседа йдзе Лявон
І пазычыць хоча
У яго магнітафон,
Хаця б на дзве ночы.

- Сыграць хочаш, дружа мой? -
Ад суседа чуе.
- Не, хачу я мець спакой;
Выспацца хачу я!

### ЦЫВІЛІЗАЦЫЯ

- Тата, пагавары са мною,
Хоць і заняты працаю.
Скажы мне, што гэта такое
"Цывілізацыя?"

- Як за пагодаю ва ўпор
Сачыць мы будзем, Ліза,
І замест каб пайсці на двор
Уключым тэлевізар.

### СІЯМСКІЯ КАТЫ

- Я чуў, што маеш ты
Сіямскія каты?
- Маю каты на славу,
Вязі хоць на выставу.

Разумныя такія,
Вясёлыя, жывыя...
- А ты скажы мне, Міля,
Як вы іх раздзялілі?

*АМЕРЫКАНСКІЯ АНЕКДОТЫ*

### ДЗЕ ЛЯЛЬКА?

Увечары сям'я сядзіць каля тэлевізара. Маці пытаецца:

- Дзе твая лялька, Мэры?

- Я паклала яе спаць, таму што гэты фільм не для дзяцей.

### ФІЛАНТРОП

- Боб, якая прафесія ў твайго бацькі?
- Ён філантроп.
- А што гэта такое?
- Спачатку ён збірае грошы для дапамогі беспрытульным афрыканцам, а затым будуе за іх дамы і здае іх у наём.

**А. Б.**

## ПРЫГОДЫ МЫШКІ ПІК-ПІК

### ПАРТРЭТ МЫШКІ ПІК-ПІК

Мама намалявала татаў партрэт і павесіла над канапай. Усе гаварылі, што вельмі падобны. Пасля мама намалявала сябе ў прыгожай казачнай сукенцы. І Веранічку намалявала. І Пепіту. Толькі ў мышкі Пік-Пік партрэта не было. Не адразу Пік-Пік над гэтым задумалася - яе больш цікавілі ўежныя рэчы. Але неяк думка з'явілася ў мышчынай галоўцы: "Чаму гэта на сценах маёй кватэры няма майго партрэта?" Як вядома, Пік-Пік высока ацэньвала сваю знешнасць. Чаму ж такую прыгожую істоту не ўвекавечылі? Маму папрасіць намаляваць, ці што? Скажа, што занятая. Тату лепей не прасіць: мышка бачыла, як ён малюе. Да Веранічкі хіба звярнуцца? "А чым я мастачка горшая за Веранічку? - раптам вырашыла мышка. - Сама сябе намалюю!" Пік-Пік дастала аркуш паперы, Веранічныя фламастры і пачала маляваць. Малявала доўга і старанна, і калі партрэт быў гатовы, прыляпіла яго пластылінам над канапай, палюбавалася і пайшла ў норку адпачываць.

Хутка вярнуліся з прагулкі Мама, Тата, Веранічка і Пепіта. Яны адразу заўважылі над канапай новы малюнак.

- Божа, хто гэта? - сказала мама.

- Гэта Баба Юга, - адказала Веранічка. - У яе венік і сіні нос! (За венік Веранічка палічыла мышчын хвосцік).

- Не, - запярэчыла мама. - Гэта кракадзіл у футры. Толькі кракадзіл мае такую вялізную зубастую пашчу! (Справа ў тым, што мышка намалявала сабе шчырую ўсмешку).

- Гэта іншапланецянін. Я іх ведаю, - запэўніў тата. - У іх такія вось лупатыя вочы і чырвоныя вушы.

- Калі гэта такі... ні на каго не падобны, - прамуркатала Пепіта, - дык гэта Дамавік.

Дамавіка ніхто ніколі не бачыў, таму ўсе пагадзіліся з Пепітай і разышліся па сваіх справах. І не ведалі, што Дамавік увесь гэты час сядзеў у куце пад тэлевізарам, слухаў размову і вельмі зацікавіўся. Калі пакой апусцеў, Дамавік вылез са сваёй схованкі і скочыў на канапу, паглядзець на свой партрэт. Тое, што ён убачыў, прымусіла яго пачырванець ад абурэння.

- Гэта я?!! Ну! Толькі даведаюся, хто мяне так намаляваў...

- Тут на канапу ўзлезла мышка Пік-Пік. Яна прачнулася, успомніла пра свой цудоўны партрэт і пабегла правяраць, ці ж ён на месцы.

- Слухай, Пік-Пік, гэта хто намаляваў? - паказаў Дамавік на малюнак.

- Я, - сціпла адказала мышка. - А што, падабаецца?

- Падабаецца?!! - захлынуўся ад абурэння Дамавік. - Як ты пасмелілася так мяне размаляваць?

- Цябе? - здзівілася мышка. - Гэта я сябе намалявала. Гэта я.

- Ты? - Дамавік ажно разрагатаўся. - Няўжо ты такая?

- Канечне! - пакрыўдзілася мышка.

- А чаму на малюнку такі вялікі рот?

- Бо я ўсміхаюся...

- А чаму вочы - як талеркі? Чаму вушы - як лапухі?

- Ты проста мастацтва не разумееш! - заявіла Пік-Пік і надзьмулася.

- Ну, добра, - сказаў Дамавік - раз ты лічыш, што на гэтым малюнку - ты, я зараз яго ажыўлю. Будзе табе сяброўка! - Дамавік падзьмуў на малюнак, і папера адразу зрабілася чыстай. А на канапе сядзела такая пачварына, што мышка спалохалася:

- Ты... хто?

- Я - гэта ты, - рашучым голасам адказала пачвара. - Я - мышка Пік-Пік. Цяпер куды ты - туды і я! Есці хачу!

Мышка Пік-Пік спалохалася і пабегла ў норку. Але пачвара не адставала. Забегла ў норку разам з Пік-Пік і адразу кінулася да яе прыпасаў. Пік-Пік у жаху выбегла з норкі і крыкнула Дамавіку:

- Вяртай гэтую пачварыну на паперу! Гэта зусім не я! Хутчэй! А то яна ўсе мае прыпасы паесць!

Дамавік злітаваўся, падзьмуў на пусты ліст, і на ім зноў з'явіўся мышчын малюнак, а з норкі перастала даносіцца гучнае хрумстанне. Пік-Пік з палёгкай уздыхнула і пабегла падлічваць страты. На жаль, пачвара сапраўды ледзь не ўсё з'ела. Пік-Пік роспачна піскнула, схапіла чорны фламастэр і намалявала на сваім партрэце краты - атрымалася, што пачвара сядзіць у клетцы. А ўнізе мастачка падпісала: "Вельмі небяспечная пачвара невядомай пароды".

**ЛЮДМІЛА РУБЛЕЎСКАЯ**

ЗЁЛКІ-ЛЕКІ

## ЦЫБУЛЯ ЗАЎСЁДЫ ПАД РУКОЮ

Цыбуля *(Allium cepa L.)* гэта двух- ці шматгадовая расліна, якая, як маркуюць, паходзіць з сярэдняй ці заходняй Азіі. Вырошчваюць яе ў спажывецкіх мэтах прынамсі 5 тысяч гадоў. У нас найбольш распаўсюджаны два яе гатункі: даволі вострая — у выглядзе маленькіх чырванаватых цыбулінак і больш далікатная па смаку, саладкаватая — у выглядзе вялікіх цыбулін.

Цяжка ўявіць сабе нашу кухню (асабліва мяса і гародніну) без цыбулі. Аднак жа цыбулю шырока прымяняе таксама народная медыцына. Сыравінай з'яўляюцца свежыя цыбуліны — *Bulbus Cepae*.

Як удзейнічае цыбуля на арганізм чалавека? Перш за ўсё яна забівае бактэрыі як дзякуючы лётным субстанцыям, якія паяўляюцца ў той час, калі цыбулю ць ці таўкуць на мязгу, так і субстанцыям, якія знаходзяцца ў мякішы. Вельмі дапамагае пры катаральных станах верхніх дыхальных шляхоў, а таксама страўнікавага тракта. Акрамя таго, цыбуля лагодна зніжае павышаны ціск крыві і з'яўляецца значным вітамінным чыннікам.

Цыбуля, з'яўляючыся папулярнай прыправай, багатай серай, павялічвае адпорнасць арганізма на хваробы. У краінах, дзе назіраецца павялічанае спажыццё цыбулі, радзей хварэюць ракам.

Мязга са свежай цыбулі, выкарыстаная ў выглядзе кампрэсаў, дапамагае пры рэўматычных хваробах. Кампрэсы з сырой цыбулі прыкладаюць да балючых месц. Цыбуля расшырае падскурныя крывяносныя сасуды, выклікае пячэнне і мясцовае пачырваненне скуры, змяншае ці нават ліквідуе боль. Можна зрабіць мязгу з печанай ці варанай цыбулі — яна не выклікае такіх рэакцый, а ўсё ж у значнай ступені захоўвае свае ўласцівасці. Але наогул кампрэсы з варанай ці печанай цыбулі прыкладаюць да цяжка гаючыхся ран, чыроў і нарываў.

Але найлепшая цыбуля пры сухім, доўгатрывалым кашлі. Найчасцей спалучаюць яе з мёдам ці сіропам, што яшчэ больш дапамагае адкашляцца.

**Сіроп з цыбулі**

Сцерці цыбулю на бульбяной тарцы або змалоць у мясарубцы, перамяшаць з такой самай колькасцю мёду, закіпяціць і выцiснуць праз палатно. Піць па адной сталовай лыжцы 3—5 разоў у дзень пры кашлі і бранхіце. Дзецям даваць сіроп па чайнай лыжачцы.

**Сок з цыбулі**

Пасячы дробна цыбулю, пасыпаць яе цукрам і паставіць у посудзе ў цёплым месцы да наступнага дня, а тады выціснуць сок праз палатно. Піць 2—4 разы ў дзень пасля яды пры кашлі, хрыпцы і катары горла. Дарослыя павінны прымаць па адной сталовай лыжцы соку, а дзеці — па чайнай лыжачцы.

**Цыбульнае віно**

Да 300 г мязгі цыбулі дадаць 100 г мёду і бутэльку (700 мл) белага сухога віна, старанна перамяшаць, трымаць так 4—5 дзён, а тады працадзіць. Піць 1—3 разы ў дзень па малым кілішку. Гэты сродак узмацняе арганізм і супраць дзейнічае цынзе.

**Кампрэсы з цыбульнай мязгі**

Свежую цыбулю сцерці на тарцы, а атрыманую мязгу размазаць на марлі ці палатне і прылажыць да месца, ахопленага рэўматычным болем. Зняць кампрэс, як толькі пачне моцна пячы.

**Цыбульная мазь**

Абабраць вялікую цыбуліну і сцерці яе на тарцы. Дадаць да мязгі лыжку мёду, чайную лыжачку або крыху больш пшанічнай мукі, 1/2 цюбіка мазі „*Tormentiol*" і размяшаць усё так, каб атрымалася густая паста. Прыкладаць да чыроў, нарываў і цяжка гаючыхся ран.

ЭСКУЛАП

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Астроне! У апошні час мне сніліся вельмі нядобрыя сны. Увесь час нейкія хваробы, нябожчыкі, паміраючыя людзі. Ну, проста абрыдла мне ўжо ўсё гэта. Сніліся нават людзі, якія памерлі даўным-даўно і ніколі дагэтуль мне не прысніліся. А найважнейшае ва ўсім гэтым - што амаль ва ўсіх гэтых снах прысутнічала мая мачыха. Ты, Астроне, калісьці пісаў, што сніць мачыху - нядобра. Што абазначае гэта нейкую няшчырасць, фальш. Мне ўвесь час карціла даведацца, хто і што гэта так мне рыхтуе! Аднойчы прысніўся далёкі сваяк, таксама нябожчык, з дзецьмі якога мы падтрымліваем такую-сякую сувязь (яны жывуць за граніцай). Я вельмі здзівілася.

І вось уяві сябе, Астроне, мы ляжым усе хворыя на грып, а да нас з'яўляюцца госці - чатыры дарослыя асобы, якім трэба даць пасцель, якіх трэба накарміць (а перад гэтым, вядома, нешта ж трэба купіць у горадзе), якімі трэба заняцца і бавіць іх.

Мне стала млосна. Як жа так можна? Ці ж чалавек не мае свайго жыцця? Ці не можна захварэць ці кудысці выехаць? Як можна звальвацца камусьці на галаву, не папярэдзіўшы пры гэтым (ужо не гаворачы пра тое, што варта было б і запытацца, ці тэрмін іх прыезду быў бы нам адпаведны).

Што было рабіць. Звалаклася я з ложка, зрабіла нейкія пакупкі і стала каля пліты. І вось, думаю я, што тыя сны прадвяшчалі мне якраз гэты прыезд. Гэта ж напэўна не сталася ў адзін дзень. Яны ж рыхтаваліся, планавалі паездку, а я нічога не ведала, толькі сны гэтыя непакоілі мяне ноч у ноч. А што думаеш наконт гэтага, Астроне?

А.

Шаноўная А.! Думаю, што сны твае былі папераджальныя. Трэба было спадзявацца ўсяго. Але смерці не здарылася пры гэтым? То і добра! Магло ж быць горш, чым было.

АСТРОН

## БУРЖУЙ ЦІ КАМУНІСТ

Здарылася гэта некалькі дзесяткаў гадоў таму назад, калі ў выніку рэвалюцыі ўпала Расія і паўстаў Савецкі Саюз.

Ленін, ведучы народ на барацьбу, абяцаў залатыя горы. Праўда, праграма Леніна была б добрай, калі б ён пажыў да гэтага часу, калі камунізм прайшоў бы цэлы свет. Але тут знайшоўся Сталін, якому ўсяго было мала і які надумаў згубіць Леніна. Ленін казаў, што калі калектывізацыя сельскай гаспадаркі не ўдаецца, то трэба яе спыніць і прыдумаць іншую форму.

Сталін сказаў, што Ленін быў лянівы і замаруджваў пераўтварэнне гаспадаркі. Калі ўжо Сталін стаў правадыром, пачаў рабіць усё па-стальному, каб было яно трывалае, моцнае. Пачаў ён сілком заганяць усіх у калгасы і раскулачваць сялян.

Адзін селянін, які пры цары меў 20 кароў, 6 коней і двух парабкаў, астаўся толькі з адной худой каровай і худым конікам. У калгас ён уступіць не жадаў, а партрэт цара, завернуты ў чыстую анучку, схаваў на дно сундука. Калі сталі прадаваць партрэты Сталіна, селянін прыгожа аправіў яго ў рамку за шклом і таксама схаваў у сундук.

Савецкая ўлада далей лічыла селяніна ворагам, бо не ішоў ён у калгас.

Прыехалі міліцыянеры, зрабілі вобыск у селяніна, хацелі знайсці нейкую падставу вывезці яго ў Сібір як здрадніка радзімы і ворага народа. Міліцыянеры знайшлі партрэты цара Мікалая і Сталіна. „Скажы, браток, чаму ты гэтыя партрэты схаваў так глыбока?" — спытаў міліцыянер. Селянін паказаў на цара і кажа: „Вось гэты чалавек, то быў дурань, а Сталін разумны. За цара я трымаў 20 кароў, 6 коней і двух парабкаў і цар гэтага не ведаў, а тое, што цяпер у мяне адна кароўка і адзін конік, Сталін ведае. Вось таму і разумны ён".

Міліцыянер пастукаў селяніна па плячы, сказаў што ён не вораг народа. І не паехаў селянін у Сібір.

Так селянін астаўся на месцы, але ў калгас пайшоў.

Пры такой палітыцы, якая ў нас цяпер творыцца, нашыя ўлады заганяюць нас у магілу, або прададуць так, што не будзем ведаць каму і калі.

М.ЛУК'ЯНЮК

## КРЫЖАВАНКА

**Упоперак:** 2/ узброеныя сілы дзяржавы, 6/ знешні бок верхняй часткі бядра, 7/ дзікая, звычайна драпежная жывёла,



8/ устаноўлены парадак або сума, пакладзеная ў банк для захавання, 9/ нямецкая назва дзяржавы, 11/ ігумен каталіцкага мужчынскага манастыра, 14/ воклік на паляванні з сабакамі, які абазначае: бяры, лаві, хапай, 16/ палац, 17/ дасціпны, вясёлы жарт, учынак, 18/ вынік акіслення жалеза, 20/ выраз твару або снарад, 23/ падлетак на судне, які рыхтуецца стаць матросам, 25/ светлавы тон, афарбоўка, 26/ алкагольны напітак, 27/ лесвіца на караблі, 28/ жаданне, патрэбнасць піць.

**Уніз:** 1/ альяс, вечназалёная лячэбная расліна, 2/ тупая частка сякеры, 3/ спадарожнік сярпа на савецкім гербе, 4/ занятак конніка, 5/ высушаная трава, 9/ інтэлект, 10/ дзяржава на Аравійскім паўвостраве, 12/ хлебная адзінка, 13/ зялёнае сена, 14/ плошча роўная 4047 квадратным метрам, 15/ суп са свежай рыбы, 19/ лёска або беларускі паэт, 21/ птушка атрада галянастых з доўгімі нагамі і загнутай дзюбай, якая жыве ў цёплых краінах над вадой, 22/ траншэя, 23/ пераноснае жыллё ў некаторых качавых народаў Азіі і Сібіры, 24/ пералётная птушка сямейства варанавых.

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

Адказ на касяк з 6 н-ра. **Управа:** слова, спіраль, спеўнік, сібірак, скрынка, Сымон. **Улева:** сляпы, свірэпа, слоўнік, сінічка, сатырык, склон.

Кніжныя ўзнагароды атрымоўваюць: **Лукаш Пацэвіч** з Беластока і **Мікалай Красоўскі** з Бельска-Падляшскага.




"Niwa"
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok, skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok, ul. Antoniuk Fabryczny 13.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка "Ніва"

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na III kwartał 1993 r. upływa 20 maja 1993 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na III kwartał wynosi 39 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 6000 zł., a kwartalnie - 78000 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

## МАКАТРАЗМЫ

**ПАЧЫНАЕЦЦА НА ХЭ...**

Увагнаўшы бліжняга ў калапс,
Ханжа ўзбагачваў амплуа:
- Мой стары дружа,
Жыві, ды не тузай дужа.

**ПРЫЗНАННЕ ЛЮДАЕДА**

Болей за ўсё люблю вас, людзі!
І гэту цягу час не студзіць.

**СІДАР МАКАЦЁР**

*АМБРОЗ БІРС*

## БАЙКІ

### ЛЯТАЛЬНЫ АПАРАТ

Геніяльны Чалавек, які пабудаваў лятальны апарат, запрасіў шмат людзей паглядзець на яго выпрабаванне. Калі ўсё было падрыхтавана, Чалавек сеў у апарат і ўключыў рухавік. Машына тут жа прабіла спецыяльна пабудаваны памост і бясследна знікла ў зямлі. Аэранаўт ледзь паспеў выскачыць.

- Я зрабіў дастаткова, - сказаў ён, - каб прадэманстраваць беспамылковасць у дэталях. Усе дэфекты, - дадаў ён, глянуўшы на парушаны цагляны памост, - усяго толькі фундаментальныя.

Пасля гэтага запэўнення людзі пачалі збіраць грошы на пабудову другога апарата.

### ДВА ПАЛІТЫКІ

Два палітыкі абменьваліся думкамі наконт узнагарод за грамадскую службу.

- Узнагарода, якой я прагну, - сказаў Першы Палітык, - гэта павага грамадзян.

- Безумоўна, гэта вельмі пачэсная ўзнагарода, - заўважыў Другі Палітык. - Але, на жаль, каб атрымаць яе, трэба кінуць палітыку.

Хвіліну яны глядзелі адзін на аднаго з невыразнай пяшчотай, а потым Першы Палітык прамармытаў:

- Хай будзе на гэта воля Бога! Калі мы не можам спадзявацца ўзнагароды, дык прысягнем задаволіцца тым, што маем.

І, узняўшы правую руку, якую кожны дагэтуль трымаў у дзяржаўнай скарбніцы, палітыкі прысягнулі.

З англійскай пераклаў
**АЛЕСЬ КУДРАЎЦАЎ**






*Малюнак П. Козіча*

*АЛЯКСЕЙ КАЎКО*

## ЦУДОЎНАЯ АЛЕНА

*Гумарэска*

Я ўжо і не памятаю, хто гэта прыдумаў. Хлапечнік правесці на прыродзе. Дзе-небудзь на беразе Прыпяці ці Ясельды. Пажывём як рабінзоны. Ад гарадскога тлуму ўцячэм. Луг, лес, зоркі, рака... Цуд! Гарачая юшка пад печанку. Юшка з карасёў. Маліна паспела. Мы ўжо сабралі рэчмяшкі, як раптам успомнілі, што адзін сярод нас жанацік.

- Не пусціць мяне Алена, - заныў Іван.

- Во закавыка... - замармытаў Мікола.

І тут вытыркнуўся я:

- Алену бяру на сябе. З імі трэба ўмець... А я ўмею.

Вечарам, нібы незнарок, я заглянуў да Івана. Весела паздароўкаўся. Алене ручку цмокнуў, камплімент падпусціў:

- Ну й пашанцавала Івану. Цудоўная, чароўная Алена! З-за такой вось красуні калісь Траянская вайна ўсчалася.

- Ты і міфы ведаеш? - зардзелася Алена, мімаходзь зыркнуўшы на сябе ў люстэрка. - А мой толькі парады для рыбалова чытае.

Селі вячэраць. Я бутэльку "Херэса" дастаў, імпартную шакаладку. Выпілі па чарцы. Ну я і завёўся! Расхваліў і вячэру, і чысціню ў хаце. А калі выпілі па другой - я і зусім распаліўся:

- Глядзі Іван, - нахабнічаю, - а то незнарок украду ў цябе тваю сінявокую русалку.

І адважна цмокнуў Алену ў пульхную шчочку, бо збіраўся перайсці ўжо да справы, з-за якой і прыйшоў. Але не паспеў я і слова болей вымавіць, як Алена пырхнула ў другі пакой. Мы з Іванам няўцямна пазіралі адзін на аднаго, не ведаючы, як паводзіць сябе далей. Я, сумеўшыся, пачаў збірацца дамоў. І тут раптам Алена вынырнула з другога пакоя апранутая і пры чамадане:

- Даруй, Іван, - сказала яна са слязой у голасе. - Ты ж бачыш, як ён кахае мяне. Дый я сёння зразумела, што нарэшце знайшла сваю палавінку...

На прыроду сябры паехалі без мяне. А я бегаю з талонамі па магазінах, вытрасаю дываны, мыю посуд і цалую цудоўнай Алене ручкі, калі яна вяртаецца з работы.

## СЕНТЭНЦЫІ

Хочаш Усё перамагчы, перш перамажы сябе.

* * *

Смерць - гэта рэшата, якое адсейвае мякіну ад зерняў.

* * *

Гора чорнае, бо ззяе пусткай.

**БАРЫС РУСКО**

## АНЕКДОТЫ

У рэстаране:

- Калі ласка, прынясіце мне біфштэкс, але каб ён быў з добрага мяса, злёгку прысмажаны, дастаткова мяккі. А лепш за ўсё ўзяць мяса маладога цяляці...

- А якая група крыві павінна быць у гэтага цяляці? - ветліва пацікавіўся афіцыянт.

* * *

Даслужыўся салдат да яфрэйтара і напісаў пра гэта старэнькай маці ў вёску. Маці прачытала і адразу ж напісала яму ліст у адказ:

- Ты ж глядзі, сынок, цяпер хоць сваіх генералаў не крыўдзі.

* * *

Доктар звяртаецца да свайго пацыента:

- Вы павінны пазбягаць працы, якая звязана з галавою.

- Гэта немагчыма, пане доктар, гэта мая прафесія.

- Ах, вы пісьменнік.

- Не, я цырульнік.

* * *

Юнак звяртаецца да старэнькага дзядулі:

- Дзядуля, ці ты яшчэ памятаеш дзяўчыну, якую ўпершыню пацалаваў?

- Мой дарагі, - адказвае дзядуля, - я ўжо не памятаю апошняй.

* * *

Дачка паведамляе бацьку, што выходзіць замуж.

- А хто ж ён, дачуся? Ты ж яго знаеш усяго дзесяць дзён. Ці ты яго хаця любіш?

- Гэта ўжо мая справа, тата.

- А ён цябе любіць?

- Гэта ўжо яго справа, тата.

- А з чаго ж вы будзеце жыць? Вы ж абое не працуеце?

- Гэта ўжо ваша справа, тата.

* * *

Мікалай да Кастуся, які ледзь трымаецца на нагах:

- Кастусь, чаго гэта ты так налізаўся?

- З гора.

- А што здарылася?

- Як гэта - што?! Жаночае свята ёсць, а мужчынскага няма.

- А што б ты рабіў, каб было мужчынскае свята?

- Ох, і напіўся б...

- А гэта ж чаму?

- Ды з радасці!..

Падборку зрабіў
**ЯСЕНЬ**




Дарагое Сэрцайка! Ужо мінула 15 гадоў, як я стала ўдавою. Ніколі не думала, што ва ўзросце сарака з лішнім гадоў я застануся адна. Праўда, не зусім адна, бо ёсць у мяне двое дзяцей. Але, што дзеці! У іх ужо свае сем'і, свае справы. Я, калі б не працавала, дык магла б толькі выконваць ролю іх служанкі — каму не прыдалася б мама з вялікай кватэрай, якая да таго варыць, мые і прыбірае, а яшчэ і дзяцей пільнуе ці прынамсі ў прадшколле водзіць!

Я ва ўсім гэтым ім і так стараюся дапамагчы, але мушу нешта пакінуць і сабе. А гэта перш за ўсё праца (людзі, неабходнасць прыадзецца, прычасацца, кампанія) і... мушу мець нейкага мужчыну. Можа, табе, Сэрцайка, гэта здаецца смешным (старая баба ды яшчэ мужчыны хоча), але гэта справа для мяне — сапраўды справа жыцця і смерці. Калі ў даны момант няма каля мяне мужчыны, адчуваю сябе самотнай і адкінутай з жыцця, хаця ведаю, як патрэбна я дзецям і ўнукам.

І нейк так складалася, што на працягу гэтых гадоў нехта заўсёды ў мяне быў. На жаль, былі гэта людзі, у асноўным старэйшыя за мяне. Калі даходзіла да нейкай размовы пра шлюб, кожны з іх успамінаў раптам, што ў яго ёсць свае дзеці і ім бы прыдалася яго кватэра або прынамсі грошы за яе. Адны прапанавалі, што прыйдуць да мяне „з чамаданчыкамі", іншыя мусілі дапамагаць разведзенай дачцэ выхоўваць дзяцей.

У выніку неяк нічога не выходзіла, з адным здарыўся інфаркт.

І вось нарэшце шчасце ўсміхнулася мне. У чалавека, з якім мы хадзілі яшчэ да майго замужжа, памерла жонка. Хаця мы жылі ў адным горадзе, то ніколі не сустрэліся пасля таго, як рассталіся. Ён шукаў мяне, бо чуў, што і я ўдава. Тады, у маладосці, у нас не выйшла, бо ўмяшалася трэцяя. Праз маю сваячку ён звязаўся са мною. Пачаў прыходзіць. Усе пачуцці нахлынулі на мяне з новай сілай. Я паверыла ў свой лёс. А ўсё ж не быў ён такі ласкавы.

Зяць майго каханага працаваў у Амерыцы ўжо даволі доўга. Сцягнуў ужо яго дачку з сынам туды, бо і было да чаго: ён ужо там заснаваў сваю фірму. Дачка настайвала, каб прыехаў і бацька, хаця ён жыў з другой дачкой. Мы пагаварылі з ім. Ну, што ж, жыццё цяжкое ў нас, мо там было б лепш. Вырашылі, што ён паедзе адзін, а пасля запросіць мяне. І там мы пачнем новае, супольнае жыццё. Адзін мой сын у сувязі з гэтым ужо „запланаваў" будучае жыццё, а другі сказаў, што ўбачыш, маўляў, нічога з гэтага не будзе. Паедзе і забудзе пра ўсё, што абяцаў.

Мінула ўжо тры гады. Піша мне рэгулярна лісты, а адзін раз нават прыслаў у лісце 5 долараў. Але пакуль што ўсё застаецца па-старому. Праўда, у кожным пісьме прасіць чакаць і верыць, але што з таго, калі час бяжыць, на галаве не засталося ніводнага цёмнага валаска — дык і ехаць ужо туды навошта...

І гэта было сапраўды маё найбольшае расчараванне ў жыцці, бо тут, як мне здавалася, былі сапраўдныя пачуцці. А так — паехаў і забыўся. Што рабіць? Я яму ў пісьмах пішу пра ўсё, як думаю. Нічога не скрываю.

**Наталля**

Даражэнькая Наталля! Ад'язджаючаму заўсёды лепш, чым таму, хто застаецца. Табе застаецца смутак і надзея, а ён уліп, відаць, у новае жыццё. Мо таксама бавіцца там у нянькy (у яго ж таксама там унук), мо знайшоў бабу на месцы. А можа проста не мае куды і за што цябе запрасіць. Тыя яго 5 долараў выразна ўказваюць на гэта. Табе ж гэтых долараў толькі на дарогу мо спатрэбілася б цэлая тысяча.

Відаць, не такі твой лёс ласкавы, як табе ў пэўным моманце здалося. Ну, што ж, але бабуляй то можаш заўсёды быць. Кахай унукаў!

**СЭРЦАЙКА**